лемаў. Такім чынам і псыхалягічна цьверджаньне Р. С-кі, што на П. Радзевіча нехта зрабіў данос дзеля таго, што той быў каталіком, выглядае зусім непраўдападобна.

Калі сп. Р. С-кі піша, што рэлігійная талеранцыя ў гісторыі Беларусі была большая, чым на Захадзе, дык з гэтым у аснаўным можна згадзіцца, бо-ж пэўна, яп. Кунцэвіч гэта ўсё-ж не яп. Торквэмада, але былі на Беларусі на гэта і аб'ектыўныя прычыны, а імена — існаваньне дзяржаўных мужоў, якія не атоесамлівалі інтарэсаў рэлігіі з інтарэсамі народу і дзяржавы, бо-ж ахвотнікаў быць нецалерантнымі было больш, чым трэба.

Праўду напісаў сп. Р. С-кі, што ў беларускім руху неталеранцыі ня было, але на сёньня больш важным ёсьць тое, каб гэнай неталеранцыі не паўставала і цяпер. Мне здаецца, што ня будзе ніякага грунту для неталеранцыі, калі ўсе Беларусы зразумеюць, што нельга прывязваць завялікага значэньня да прыпадковага і ад волі незалежнага факту нараджэньня ад бацькоў таго ці іншага веравызнаньня, і калі ўсе Беларусы ў першую чаргу будуць пачувацца Беларусамі, а толькі ў другую чаргу сябрамі тае ці іншае рэлігійнае групы, і будуць інтарэсы свайго народу заўсёды ставіць вышэй ад інтарэсаў тае ці іншае рэлігійнае групоўкі, не гаворачы ўжо аб прэтэнсіях палітычнага характару, убраных у рэлігійную сукенку, для утрудненьня распазнаньня.

На пачатку свайго артыкулу сп. Р. С-кі цытуе з нр. 3 "Беларускага голасу" выказаньне, падпісанае М., які выступіў супроць ужываньня ў нутраным змаганьні савецкіх мэтадаў і Р. С-кі стараецца выклікаць уражаньне, што М. выступіў супроць пашыраньня ненавісьці супроць Беларусаў-каталікоў. Вось-жа аўтарытэтна выясьняю (як аўтар), што маё выказваньне адносілася толькі і выключна да мэтадаў змаганьня, а зусім не заклікала да адмовы ад змаганьня. Наадварот, я лічыў і лічу, што кожны грамадзянін мае ня толькі права, але і абавязак змаганьня супроць таго, што ён лічыць злом. Супроць пашыраньня ненавісьці да каталікоў я не выступаў, бо ня бачу, каб нехта з прапагандай ненавісьці выступаў. Сп Р. С-кі дэфармуе запраўднасьць і кожнае крытычнае выступленьне супроць ватыканскай палітыкі называе шырэньнем ненавісьці да Беларусаў каталікоў, а гэта-ж ня ёсьць тое самае.

Сп. Р.С-кі ня хоча згадзіцца з тым, што часопіс "Уздым" і іншыя вядуць змаганьне ня супроць каталіцтва, як такога, а супроць вуніяцкай акцыі, і піша, што такое становішча немагчымае, бо-ж вунія гэта тое-ж каталіцтва. З цьверджаньня сп. Р. С-кі вылазіць ягоны таталітарны сьветапагляд, бо ён ня годзіцца з тым, што можа непадабацца частка нейкай цэласьці. Па другое, нельга згадзіцца з тым, што вунія гэта тое-ж каталіцтва. Вунія ёсьць каталіцтвам толькі дагматычна, а відаць што Ватыкан прывязвае значэньне ня толькі да догматаў, з таго, што ў тым самым каталіцтве дазваляе пераходзіць з абраду ў абрад толькі спэцыяльным дазволам Ватыкану. Парушаць-жа праблему аб прыдатнасьці, ці шкоднасьці вуніі для беларусоў было-б паза абсягам гэтага артыкулу, хаця праблема гэтая вартая прадыскутаваньня.

Пару годоў таму ў 'Бацькаўшчыне' выступіў з артыкулам др. Янка Станкевіч, у якім даводзіў, што вымаганьні каталіцкай царквы ў адносінах да некаталіцкай стараны пры заключэньні шлюбу, ня ёсьць паніжаючымі ці несправядлівымі.

Год таму бастонскі кардынал Кушынґ у прэсавым інтэрв'ю сьцьвердзіў, што на ягоны пагляд вымаганьні каталіцкай царквы ў адносінах да некаталіцкай стараны пры шлюбах, ёсьц няслушныя, паніжаючыя і павінны быць чым хутчэй адмененыя.

Ці можна зрабіць з гэтага вывад, што др. Станкевіч лепшы каталік ад кардынала Кушынґа, бо др. Станкевічу падабаецца ў каталіцтве ўсё бяз вынятку, а ў кардынала Кушынґа ёсьць вынятк?

Я думаю, што такога высьнаву зрабіць нельга, але можна зрабіць іншы высьнаў, а імена, што др. Я. Станкевіч прадстаўляе ў каталіцтве іншую плынь, чым кардынал Кушынґ, і што пагляды др. Янкі Станкевіча цалкам зьбежныя з паглядамі рэакцыйных біскупаў і кардыналаў з Гішпаніі, Італіі, хаця трэба было-б спадзявацца, што паходзячы з народу рэлігійна мяшанага, др. Я. Станкевіч павінен быў-бы быць больш лібэральны ў сваіх паглядах на рэлігійныя суадносіны ў мяшаным рэлігійным грамадзтве.

Меў нядаўна нагоду пазнаёміцца з пратаколамі Другога Ватыканскага Сабору. Чытаючы вельмі слушныя, сьмелыя і лібэральныя выказваньні многіх біскупаў і кардыналаў, я падумаў, што добра, што падобных выказваньняў ня чытаў сп. Р. С-кі, які-б безадкладна перавёў-бы іх усіх у катэгорыю ворагаў каталіцтва, бо ім ня ўсё падабалася ў цэласьці. Іншая рэч, што ў мяне вытвараецца ўражаньне, што ў каталіцкай царкве думаньне на тэмы, зьвязаныя з рэлігіяй, пачынаецца ад біскупа ўгару.

Прыклад Р. С-кі аб коптах, якія, будучы розных веравызнаньняў, жывуць згодна, да нашых суадносінаў зусім не падходзіць, бо вышэйшая кляса коптаў гэта магамэтане, якія ўжо вызбыліся дзікасьці наварочваньня, а не каталікі, якія хаця ня любяць, каб наварочвалі іх, але поўныя ахвоты да наварочваньня іншых, а ніжэйшая кляса гэта не праваслаўныя, як цьвердзіць Р. С-кі, а монафізыты.

Адносна назойлівага стараньня сп. Р. С-кі загнаць усіх незадаволеных вунійнай акцыяй у русафілы, дык трэба зазначыць, што русафілы сягоньня якраз вэрбуюцца з каталікоў, даволі азірнуцца навокал.

У нр. 86 часопісу "Божым шляхам" знаходзім на старонцы 16 вельмі слушнае выказваньне: "Адносна рэлігіі мы ўважаем, што чалавек павінен верыць паводле сумленьня: перамяніць рэлігію трэба толькі тады, калі пазнае, што ягоная была непраўдзівая".

Гэтае асьветчаньне, калі яно шчырае, можна толькі прывітаць. Стасаваньне яго ў жыцьці зьвядзе ўсялякія зьмены рэлігіі з ідэёвых пабудкаў да нуля, бо гэтае становішча сугэруе знаёмасьць філёзафічных падставаў рэлігіі, да якой належыцца, тады — пазнаньне цьверджаньняў канкуруючай рэлігіі і ў выснаве — зробленьне выбару паміж імі. Людзей, якія-б мелі ахвоту і дастатковыя асьветныя падставы да гэтага, ёсьць вельмі агранічаная колькасьць.

Адносна таго, што адна з двух рэлігіяў, што параўноўваліся, мае аказацца праўдзівай, а другая не, дык трэба зазначыць, што людзі, здольныя да рабленьня параўнаньняў і выдаваў, пераважна ведаюць, што існуюць сотні адзінапраўдзівых рэлігіяў, і гаварыць аб іхнай праўдзівасьці гэта тое самае, што гаварыць аб праўдзівасьці або геамэтрыі Эўкліда або Лобачэўскага, ці наадварот.

*Л. Галяк*

*МАСЕЙ СЯДНЁЎ*

НА ВОЗЕРЫ МІЧЫГАН

Як добра на Мічыгане! —
Бяздоннае неба, сонца, вада.
Харчы і гатэль, — усё беззаганна,
каб толькі ня сумная грамада.

Людзі ляжаць пад ветрам павеўным —
такая малеча, драбяза.
У Бога за іх, напэўна,
з жалю бліскучыць сьляза.

Захоплены кажны драбніцаю самай,
у шчасьці маленькім кажны прыціх.
І робіцца страшна, што ты таксама
належыш да іх.

А хвалі шумяць і лёгкаю пенай
хлюпаюць ласкаю каля ног.
І толькі адзін я з песьняй натхненнай
нешта далёка ў сэрцы бярог.

Вось-вось нехта прыйдзе. Гэткі цікавы,
што ўсьцешыцца раптам уся грамада.
І ўспыхнуць пановаму ў промнях славы
бяздоннае неба, сонца, вада!

1962 г.

МІХАСЬ КАВЫЛЬ

***

Кажуць людзі — ўсё ў жыцьці праходзіць.
А чаму, спытаю я ў людзей,
Правяла мяне да загародзьдзя
І пайшла, як з могілкаў адходзяць,
А й дасюль ня выйшла із грудзей.

Ўмаіх грудзях шмат хто меў прытулак,
У сэрцы, знацц . . . Што таіць грахі?
Ды, ці грэх, калі краса дзяўчыны
Пекане, бы дзідамі шыпшына,
У час самоты, сумны і ліхі?

Не, я сэрца вельмі ня трыножыў,
Калі йшоў сярод дзяўчын, жанок.
Ды агонь спакусьліва-прыгожы
Некрануў сьвятліцы тае Божай,
Дзе цьвіце яе душы вянок.

Кажуць людзі — ўсё ў жыцьці праходзіць.
Шмат няпраўды блудзіць між людзей.
Правяла мяне да загародзьдзя
І пайшла, як з могілкаў адходзяць,
А й дасюль ня выйшла із грудзей . . .

1963 г.

*УЛАДЗІМЕР КЛІШЭВІЧ*

# ВАСІЛЬ КАЛІНА

*ПАЭМА*

РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ

I

Дванаццаць год прайшло бязмала,
Я не зьвяртаўся да пяра.
Зязюля ў лесе кукавала,
Расла пад сонцам дзетвара.
Сачыў я толькі, як надзей
Пучок становіцца радзей,
Як час крывавы і шалёны
Ганіў людзей на поле сьмерці,
Каб твар зямлі дашчэнту сьцерці,
Скрывавіць мірныя загоны.

II

Няхай чытач мяне прабачыць.
Пісаць паэму я ня мог
У гэткі страшны час лядачы.
Калі ступіў я за парог
I свой пакінуў родны край, —
Не да паэмы, як адчай
Нас пасадзіў усіх на мелі.
Вы бачылі учора самі,
Што выраблялі хлопцы з вамі,
Хвала, што головы ўцалелі.

III

А край мой быў далёка ззаду,
Як немец рушыўся на ўсход.
Дамы гарэлі Сталінграду,
У нэнзе мучыўся народ.
У нас расьселіся яны,
Зачыншчыкі другой вайны:
Курэй лавілі, бралі яйкі,
Пускалі ў неба дымам вёскі,
Нясьліся сьмерці адгалоскі,
Сьвісталі кулі і нагайкі.

IV

Замоўклі цяжкія гарматы,
Дымяцца немцаў гарады.
Расейцы з прагнасьцю расплаты
На гульбішча прыйшлі сюды.
На розных мовах шум і гам —
Сябры сабраліся ў Патсдам,
Сьвяткуюць сьвята перамогі.
А гэтым часам немак гвалцяць...
Трактат, падпісаны у Ялце,
Становіцца на свае ногі.

V

Нямеччыну ніхто ня кліча,
Не абяцае перамог.
Зьнікае Гітлер таямніча,
Нямеччыне няма дарог.
Паліла ты — сама гарыш,
Падвесілі цябе на крыж.
Паспрабуй ты сама цыкуты,
Бо ёю іншых ты паіла.
Дрыжыж. Мярэшчыцца магіла,
У ланцугі твой Райх закуты.

VI

Масква дыктуе "дэмакратам"
Свае жаданьні і правы:
Нямеччыне — рахункі стратаў,
Нямеччыну — без галавы.
Дзялілі Ялта і Патсдам:
Вось гэта нам , а гэта вам.
Кілішак быў прыемна-сьвежы,
Плылі ласкавыя прамовы,
Радзіўся сьвет з падзелам новы,
Паўсталі аж на Эльбе межы.

VII

Прыемныя сябром трактаты
Каштуюць тысячы галоў.
Тады ўжо Захад быў пракляты,
Не адзін бежанец зароў.
Нам пераможніцы вайны
На рукі клалі кайданы,
Падсоўвалі нажы пад горла,
Цяглі да рук чырвоных катаў.
I ў гэты "росквіт дэмакратаў"
Свабода, бедная, памёрла.

VIII

Гісторыя пра нас ня піша,
Палітыка нас абмане.
Нам ня было тады зацішша,
Хаваліся мы па вайне,
Бо нас, як трусікаў, глытаў
Тады пражорлівы удаў.
А нас на захадзе лавілі,
Цану набілі нам высока,
Прыжмурана сачыла вока,
Зьнішчалі нас у новым стылі.



IX

Кранаць пакіну лёс наш чорны,
Бяду ў сабе перамагу,
Бо, так ці йначай, часу жорны
Не вымялюць з душы тугу.
Страшэнных думак цёмны лес
У галаву маю залез.
Перавярну на бок старое,
Адкіну страху успаміны,
Чужацкія над намі кпіны,
Зьвярнуся зноў я да гэроя.

X

Малюнкі бацькаўскага краю
Перада мною усплылі.
Я вас прыемна ўспамінаю,
Багатай Случчыны палі:
Раўніны ціхае красу,
Загоны буйнага аўсу.
Расьце там жыта і пшаніца...
О, як-бы я хацеў нанова
Пачуць палеткаў родных слова,
Радзіме нізка пакланіцца!

XI

Ды толькі я ад вас далёка
У Каліфорніі жыву,
Буслоў ня чую родны клёкат,
Ня мну шаўковую траву.
Мне незнаёмы, чужы птах
Зьвініць штодзённа у вушах.
Няма зімы тут, вечна лета,
Дарогу сьнег не замятае.
Краіна сонца залатая
Красою кветкавай адзета.

XII

Шрамы гарапніка і кія —
Аснова права ўсіх правоў.
Хто можа тых любіць, якія
Пілі вякамі з бедных кроў?
Ці прыйдзі век той залаты
Калі-нібудзь для беднаты?
Адзін другога б'ём, калечым,
Вайна агнямі ў неба сьвішча,
Дыміцца вечна папялішча
На раздарожжы чалавечым.

XIII

Я крытыкам адно зазначу
За прасьціню свайго пяра:
Бываюць часам няўдачы,
Бывае цяжкая пара.
Пішы хоць вобразны кілім,
Ды толькі не ўнаровіш ім.
Заўсёды бачыць яны рады —
Я не кажу гэта пра масы —
У кожным вершы выкрунтасы,
А часам — рэбусы, шарады.

XIV

Было тады ў разгары жніва —
Гарачая ў сяле пара,
Нямецкі кайзэр нецярпліва
Ішоў на рускага цара.
I нечакана ўсё сяло
Вайны трывогай загуло.
К вайне ніхто ня меў ахвоты,
Мужчыны зьвесілі галовы,
Іх жонкі — заўтрашнія ўдовы,
А дзеці — горкія сіроты.

XV

Як Васіля гняла калыска,
На фронце бацька быў тады.
Падсоўваліся немцы блізка,
Займалі вёскі, гарады.
Крывёй дыміўся Петраград,
Каціўся фронт хутчэй назад.
Цара з прастолу ветрам круціць,
Трасецца Керанскі ў спадніцы,
Паны кідаюць камяніцы —
Бушуе бура рэвалюцый.

XVI

Васіль ад страху чуць ня плакаў,
А зразумець ня мог ніяк:
Чаму чырвоны б'е палякаў,
Чаму чырвоных б'е паляк?
Як толькі пан у вёску лез, —
Хаваліся сяляне ў лес.
Пан толькі скоса зьверху гляне:
"Псякрэў!" — і хрысьціць бізунамі,
Запахла польскімі панамі...
I стогнуць бедныя сяляне.

XVII

Вось Сакавік. У Менску сьвята,
Кангрэс варушыцца, як гром,
Залежнасьць рве з Масквой праклятай,
Каб дома быць гаспадаром,
А не нявольнікам вякі.
Ідуць з аружжам Случчакі,
Кругом ствараюць рух вялізны,
За Беларусь завуць з сабою,
На ворага ўзьнімаюць зброю,

Адважна б'юцца каля Вызны.

XVIII

Я веру у народ мой сьмелы:
Сыны яго праз ночы муць
Штандар наш бел-чырвона-белы
Да перамогі прынясуць
Жаданы доўга прыдзе дзень,
Няволя станецца, як цень,
Сьцюдзёны вецер адскуголіць,
Крывавы віхар пройдзе міма,
І будзеш ты, мая Радзіма,
Цьвісьці шчасьліваю на волі.

XIX

Як ланцугом цяжкім прыкуты
Твой, дарагі табе, народ,
Дык разрываць няволі путы
Ідзі адважна напярод!
Кідай агністых словаў кліч,
Крывёю ворагу адзыч,
А сам ідзі, змагар, ахвоча,
Ні кроку ў бок ад тэй дарогі,
Што давядзе да перамогі,
Ніколі толькі не варочай!

XX

Ня мець на твары страху цені,
І ня крывіцца, не стагнаць!
Чым станавіцца на калені,
Дык лепей горда паміраць!
Сябе на выпадак прымусь
Жыцьцё аддаць за Беларусь!
Адважным будзь! Хай нават цела
За родны край загінуць зможа,
Ды паможы, Магутны Божа,
Ісьці бяз страху, цьвёрда, сьмела!

XXI

Навіны ў вёсцы беглі рэхам,
Жылі нядоўга напавер.
Аднойчы з заклікам заехаў
У вёску нашую жаўнер:
"На нашы землі наплылі
Чырвоненькія маскалі.
Зямлі сваей каб не запляміць,
Усе на ворага устанем,
Гарыць на Случчыне паўстаньне,
На бой сьмяротны з маскалямі!"

XXII

Перамагла адвагу сіла,
Ды дух ня згасьне малады.
Па сыну маці галасіла,
Ламала рукі ад бяды.
Растуць на могілках крыжы,
Прыйшоў з расплатаю чужы
На нашы нівы, нашы землі;
Расьсеўся ў нас і гаспадарыць,
Плывуць над краем ночы хмары,
А вока Януса ня дрэмле.

XXIII

Вясна хвіліны не пратраціць,
Калі наплывамі раве.
Цьвілі пад сонцам сенажаці,
Каса зьвінела у траве.
Дзень, зmoраны ад працы, лёг
На сьвежы скошаны мурог.
Прырода моўчкі млела снамі,
Высока месяц плыў у небе,
Рваў цёплы вецер хмараў зрэб'е,
А вечар слаўся туманамі.

XXIV

Зімовым вечарам глыбокім
Арына з прасьніцай адна
Гадзіньніка лічыла крокі
Пад сумны сьпеў верацяна.
Часамі з рук яно ўцячэ —
Адгоніць сон з яе вачэй.
Кудысьці думкі беглі роем,
Арына ведала: ня ўстане
Ахвяра Слуцкага паўстаня —
Яе Сьцяпан — з зямлі сырое.

XXV

Жыцьцю сьлязамі не паможаш,
Яно снуе свае шляхі.
Чакаў Арыну змрочны ложак,
Выў вецер нудны і глухі.
Жыцьцё, як хвалі на вадзе,
Няўмольна напярод ідзе.
Перахрысьцілася Арына,
Паклоны б'е пад абразамі,
З вачэй зьбягаюць сьлёзы самі —
Начамі моліцца за сына.

XXVI

Тады ня так і сонца сьвеціць,
Жывое крышыць буралом,
Калі прыходзіцца кабеце
У хаце быць гаспадаром.
Вісіць усё, як на шасьце,
Там двор травою зарасьце,
Ніяк ня клеіцца парада,
Заўсёды ўсюды ўдава ззаду,



Цярпіць за зьдзек якомусь гаду,
Свайму жыцьцю яна ня рада.

XXVII

Арына крочыла к пасьцелі,
Яе агортаў нейкі жах,
Пачуцьці маці ў сэрцы млелі,
А сэрца білася ў грудзях.
Зірнула на дзіцячы твар —
Як нехта ўзьліў на яе вар.
Былі балючыя прыкметы,
Хвілінай гэткага спакою
З яго дзіцячаю душою
Зьлівалася душа кабеты.

XXVIII

Бядою радасьць затаптана,
Не адвязацца ад бяды:
Прад ёю, з постацьцю Сьцяпана,
Расьлі мінулыя гады.
У адзінокае ўдавы
Сьцяпан як быццам быў жывы.
Праходзіў так за тыднем тыдзень,
Не патухала ў сэрцы страта,
Рабілася вялікай хата,
Здавалася, што ён 'шчэ прыдзе.

XXIX

Народ прыходзіць да уздыму,
Зьмяняе шлях штодзённых спраў.
Калісьці зьзяла царства Рыму,
Мангол паўсьвету абыймаў.
Вялікі грэк сказаў яшчэ,
Што ўсё зьмяняецца, цячэ.
Другое сонца людзям гляне
З вялікай бурай, непакоем,
Прытопчацца наніз старое,
Наверх узьнімуцца славяне.

XXX

Хоць глыбіні Хрыстовай веры
Няма азначанай мяжы,
Арына Богу моцна верыць,
Перад грахом душой дрыжыць;
Яна заве, каб дапамог
Усемагутны Творца Бог
На ўсякі час, на кожным кроку
І ёй самой, і яе сыну,
Што сіратою лёс пакінуў,
Каб не абходзіў бедных збоку.

XXXI

Багацьцем Случчына вядома.
Няраз здаралася калі
Суседзям мець нястачу дома —
Тады мяшочнікі плылі,
Каб там набыць сабе харчы,
Дахаты іх завалакчы,
Карміцца імі, пакуль новы
Час ня прыходзіў ураджаю.
І сала й хлеб случчане маюць,
Багацьце — Случчыны аснова.

XXXII

Сяляне летам не задрэмлюць,
Іх кліча поле, сенажаць.
Адны варушаць плугам землю,
Ідуць другія ў поле жаць.
Сьпяваюць весела жанцы,
А песьня іх ва ўсе канцы
Нясецца звонка міма гаю.
Праз постаці і праз дубровы
Адклікнуцца далёка словы
І дзесь нячутна заміраюць.

XXXIII

Вачам прыгожасьці ня зьмерыць,
Жывой красы не перадаць:
На сонцы летам сьпеюць бэры,
Ды вішні чырваньню гараць,
А пахам мёду і віна
Напоўнена садавіна.
У небе ўецца сьпеў вясёлы:
Пакуль ня пройдзе позьні вечар,
На дрэве сьпеўна птах шчабеча,
Зьбіраюць мёд на кветках пчолы.

XXXIV

Васіль яшчэ хлапчук вясковы
Сярод хлапцоў такіх, як сам,
Вырошчваў поглядаў асновы
І вынаходзіў нават там,
Дзе-б іншы, гэтакі парог
Пераступіць зусім ня змог
Яго і векам і узростам.
Калі хто іншы ня прыкмеціў
Складаных зьяў у гэтым сьвеце,
Дык ён іх бачыў ясна, проста.

XXXV

Ён быў устрыманы заўсёды
І прыглядаўся да ўсяго.
Усякая штодзённасьць моды
Ня мела посьпеху ў яго,
Хоць аддаваў увагу дню,
Але заўсёды глыбіню
Шукаў амаль у кожнай дзеі.

Уважліва глядзеў на рэчы,
А у грамадзтве чалавечым
Вучыўся сам, як лепей дзеіць.

XXXVI

Была спачатку простай школа:
Меў пяць авечак усяго,
Тут ён — настаўнік, а жывёла
Служыла вучнямі ў яго,
Будынкам — поле і кусты,
Улетку дождж, туман густы,
Жнівамі жнівеньская сьпёка,
Увосень раніцаю іней
І песьня жаўранка, што гіне
У небе журбасьці высока.

XXXVII

Прыходзіў страх хлапцу малому,
І ня было жывой душы,
Як пачыналі гукі грому
Спакой у небе варушыць.
І заставалася яму
Любіць ня лета, а зіму.
Як быць патрэбна было дужым,
Цярпець часамі надта многа,
Перамагаць сябе самога,
Цяпліць у сэрцы кветкі сьцюжы.

XXXVIII

У кайстру хлеб, кусочак сала,
Часамі пляшку малака
Дзіцяці раніцаю клала
Рупліва матчына рука.
Пастух пакінуў каравацъ.
Як хочацца яшчэ паспаць!
А сам рыхтуе свае рэчы:
Складаны нож кладзе ў кішэню,
Гарбузікаў з сабою жменю,
Ды кайстру вешае за плечы.

XXXIX

Ці мала рознай недарэкі
На вёсцы баялі дзяды,
Што папраўляюцца калекі
Ад пасьвянцонае вады;
Як пяруны зямлю гнялі —
Быў гнеў нябеснага Ільлі.
Перад дажджом лісты сухія
Стаўбом віхор на полі верціць,
Дык людзі кажуць: гэта чэрці,
А ня прыродная стыхія.

XL

У тую шумную хвіліну,
Як віхар скача па ральлі,
Нажом у віхар трэба кінуць.
Як толькі чэрці там былі,
Кроў застанецца на нажы.
Васіль старанньня прылажыў,
Аж ног ня чуў сваіх ад болі,
Лятаў на віхар нож, як дзіда,
Ды колькі ён нажом ні кідаў,
Крыві ня бачыў сам ніколі.

XLI

А Васілю пужаньні вашы,
Што ёсьць на сьвеце ваўкалак,
Малых дзяцей хто д'яблам страшыць,
Ня былі страшнымі ніяк.
Не апускаў дадолу нос,
А паступова кверху рос.
Якім-бы там ні несла пылам
Ад тых старых дзядоўскіх страхаў —
Ён і ня охаў, і ня ахаў,
Ад страху сэрца больш ня ныла.

XLII

Хоць зразумеў Васіль няскора
Дваякі сэнс хлусьлівых слоў,
Калі адно табе гавораць,
А думаюць другое. Зноў
Пытаньне прыкрае ўстае,
Развагі тузае твае.
Але з таго, што ён праверыў
Сваімі ўласнымі рукамі,
Напрашваліся думкі самі:
Ня трэба браць усё на веру.

XLIII

Калі ў жыцьці прышлося страціць,
Шукаць ня варта задарма.
Васіль пытаўся часта ў маці:
"Дзе бацька наш, чаму няма
Яго ніколі сярод нас?"
А сам быў сьведкай у той час,
Як маці сумна, з цяжкім плачам,
Праз сьлёзы сыну гаварыла:
"Забрала бацьку ў нас магіла,
Ніколі мы яго ня ўбачым".

XLIV

Жыцьцё і сьмерць людзей спрадвеку
Заўжды таемнасьцю сваёй
Хвалююць. Вечна чалавеку
Яны прыносяць неспакой.
Існуе сьмерць, як і жыцьцё,
Аднае зьявы сужыцьцё.



Дарога вобмацкаў сьляпая
Шляхоў пазнаньня не кароціць,
А чалавек, як па балоце,
Па невядомасьцях ступае.

XLV

Маленства час ёсьць час прыгожы —
Век чалавецтва залаты,
Ён непамерны цяжар ложыць
На плечы хлопца-сіраты.
Штодзень цяжкая праца ёсьць,
А радасьць, дык часовы госьць.
Прыгожы праца час зьядае,
Няўмольны лёс гняце і плюшчыць.
Як бура крышыць дрэвы пушчы —
Пара так гіне залатая.

XLVI

Люблю цябе, Васіль, гэроя,
Што ты на ўсякую ману,
На перажытае старое
З другога боку заглянуў.
Пра філёзофію тваю
Я нават песьню прапяю,
Бо толькі ў мужнасьці, адвазе
Гэроі посьпехам сагрэты,
Да сваёй цьвёрда крочаць мэты.
І на вяршыні горда ўзлазяць.

XLVII

Ідзі, хлапец! Перад табою
Нямала цяжкасьцяў ляжыць.
Зьбірайся, будзь гатовым к бою
За цэласьць дзедаўскай мяжы!
Душа жыве хай бяз тугі,
Заусёды гэтакім багі
Працягнуць руку дапамогі.
Нідзе з багамі не прапасьці;
Жадаю посьпеху у шчасьці!
Бывай! Шчасьлівае дарогі!

КАНЕЦ ДРУГОГА РАЗЬДЗЕЛУ.

# Да "Змагарных Дарог" К. Акулы

(Працяг і заканчэньне)

Незразумелым, аднак, у простым значэньні слова, зьяўляецца сам назоў твору "Змагарныя Дарогі". Збройнае змаганьне за бацькаўшчыну, у поўным сэнсе гэтага слова, у нас тады адсутнічала. Замерла амаль і палітычнае змаганьне. Беларусы ў Нямеччыне, сьціснутыя ланцугамі гітлераўскае законнасьці, не маглі яго поўнасьцю праявіць. Ад часу, як мы вырэміграваілі з бацькаўшчыны, мы знайшліся не на змагарным шляху, а, хутчэй, на бездарожжы. Тое самае бездарожжа відаць і ў "Змагарных Дарогах". Там няма змаганьня за Беларусь. Там самацёкам ідзе змаганьне маладых беларусаў за сваё нацыянальнае беларускае "Я". Абарона і змаганьне за беларускае аблічча і становіць галоўную тэму твору. І зусім правільна, бо-ж нацыянальная ўстойлівасьць беларусаў зьяўляецца адной з галоўных базаў адбудовы нашае незалежнае беларускае дзяржавы. І тут аўтар вельмі зручна і ўмела трактуе гэтую праблему.

У нашай гісторыі змаганьня за незалежнасьць мы маем шмат сумных прыкладаў нацыянальнае няўстойлівасьці, абыякавасьці і здрады. Вядучыя роды беларускае арыстакратыі, чаловых элемэнтаў народу, ад нас адыходзяць. У беларускае масы, вернае сваёй нацыянальнай традыцыі, будзіцца шкодны псыхіцы і патрэбам змаганьня камплекс ніжэйшасьці. Адыходзяць ад нас і становяцца перакідчыкамі шмат якія беларусы і ў апошніх часох. Нацыянальная няўстойлівасьць — гэта наша беларуская хвароба. Быць сапраўдным беларусам — ня так лёгка. Гэта значыць, трэба насіць на сабе ўсе грахі нашае мінуўшчыны. Тройка маладых беларускіх кадэтаў у "Змагарных Дарогах" выклікае ў сэрцы кожнага ідэйнага беларуса нацыянальную гордасьць. Тым большая гэтая гордасьць, што тройка геройскіх кадэтаў вырасла на шляху нашага бездарожжа.

Нельга згадзіцца з др. Ст. Станкевічам, з ягонай характарыстыкай твору як "мастацкай публіцыстыкі". Якраз увесь лёс неадчыненае афіцэрскае школы ўложаны ў аповесьць з дзеючымі пэрсанажамі і апісаны памастацку, хоць і захаваліся там пэўныя элемэнты публіцыстыкі, асабліва ў пачатку твору, якія сам аўтар назваў гістарычнай часткай. Ня будучы

літаратарам, спрачацца, аднак, ня зьбіраюся, выказваю толькі ўласную думку звычайнага чытача, жадаючы захаваць поўную аб'ектыўнасьць як да самога аўтара, так і да цэласьці праблемы, парушанай у "Змагарных Дарогах". Не схаваю, аднак, таго факту, што ў мяне асабіста да лёсу неадкрытае школы і да ўсіх яе ўдзельнікаў, як і да самога аўтара, маецца асаблівы сантымэнт.

Перайшоўшы ад мастацкай часткі твору да часткі публіцыстычнай, трэба зазначыць, што адна із найбольш пякучых праблемаў сама напрашвалася-б на пяро аўтара — гэта праблема маральнага апраўданьня беларускага актыву, які шукаў магчымасьці пры немцах рэалізаваць свае нацыянальныя імкненьні. Гэта праблема ў творы амаль адсутнічае, а калі дзе і ёсьць некалькі думак на гэтую тэму, дык яны зусім схаваны і іх не заўважаецца. Насьвятленьне гэтае праблемы зьяўляецца вельмі патрэбным. З падобным апраўданьнем сваіх народаў ужо выступілі шматлікія нацыянальнасьці, а нават і жыды апраўдвалі сваіх суродзічаў, якія вырываліся з бальшавіцкага "раю" і кідаліся ў нямецкае "гэто".

Палажэньне Беларусі і беларусаў у часе апошняе вайны было надзвычайна цяжкое як з боку геаграфічнага, так і з боку ідэалёгічна-тактычнага. Было не па дарозе з бальшавікамі і не па дарозе з немцамі. Прышлося выбіраць ня тое, што трэба. Вайна застала нас непрыгатаванымі ў сэнсе палітычнай арганізаванасьці, хоць і былі спробы пры бальшавіках навязаць ідэёвыя кантакты паміж усходнімі і заходнімі беларусамі. Найменшую спробу гэтага бальшавікі душылі ў зародку, так як і раздушылі спробу кантакту паміж беларускімі арганізацыямі ў Нямеччыне з беларусамі на бацькаўшчыне. Урэшце, сама вайна была нябывалым у гісторыі сьвету парадоксам, дзе адзін праціўнік лучыўся з другім, каб паканаць трэйцяга праціўніка, а паканаўшы яго ўдваіх — як гэта ні дзіўна — толькі адзін атрымаў усе карысьці з яе. Гэтая парадаксальнасьць стварыла для нас, беларусаў, няясны шлях, у выніку чаго нам прышлося йсьці амаль што ўпоцемках, толькі ясна нясучы ў сэрцы свае нацыянальныя ідэалы. І ў цэласьці, пры немцах, была праароблена надзвычайна вялікая нацыянальная работа. Пры ўсёй наяўнасьці яе недахопу, удзел беларускага актыву ў працы пры немцах захаваў ад яўнае сьмерці нязьлічоны лік беларускага насельніцтва. Ня будзь нашага ўдзелу ў працы, дык немцы, палякі, латышы ды іншы зброд з аднаго боку, а бальшавікі з другога, перацерабілі-бы наш народ напалавіну і зьнішчылі-б усю беларускую інтэлігенцыю. І якімі-б зьмяінымі ні былі словы нямецкіх Кубаў, Юраў і г. д. з пахвалой беларускай культуры і самабытнасьці, а таксама нямецкае цьверджаньне, што Эўропа канчаецца там, дзе канчаецца Беларусь, яны набралі адпаведнага разгалосу і будзілі нават мала сьведамых беларусаў да чыну. Апалячаныя і зрасейшчаныя беларусы пачыналі вяртацца ў сваю, раней пакінутую, бацькаўшчыну, а іх былыя гаспадары з зайздрасьцю паглядалі ў бок беларуса і пачыналі яго больш шанаваць. Сьмела можна сказаць, што беларускі народ у цэласьці праявіў у часе вайны нязвычайны нацыянальны ўздым і сьведамасьць сваіх мэтаў. І хоць былі там недахопы, нядаўняя мінуўшчына дае нам многа пазытыўных фактаў пад будову будучыні нашае бацькаўшчыны. Тая праца знойдзе сваё апраўданьне ў гісторыі беларускага народу. Заходні сьвет яе ўжо зразумеў, даючы нам прытулак у сваіх краінах. Таму, заданьнем беларускага пісьменьніка было-б: вылавіць усё пазытыўнае з нашае нядаўняе мінуўшчыны і прадставіць нашым будучым пакаленьням сапраўды абсанаваныя факты, бяз прысмаку асабістых тэндэнцыяў.

Таксама незразумелым зьяўляецца, чаму аўтар, праявіўшы пісьменьніцкі талент сапраўднага мастака, спалучыў мастацкую частку сваей аповесьці з публіцыстыкай. Мне здаецца, з аднаго боку, гэта зьменшыла вартасьць літаратурнага твору, а з другога боку, аўтар знайшоўся ў палажэньні абстайваньня інтарэсаў адной групы беларусаў і абвінавачваньня другой. Асьвятленьне дзейнасьці ўспомненых у аповесьці асобаў вельмі часта не адпавядае сапраўднасьці і аб'ектыўнасьці. Часамі ён працягвае ў дадатні бок каго ня сьледуе, а зьмяншае ролю людзей сапраўды заслужаных, альбо адыграўшых вялікую гістарычную ролю, як, напрыклад, праф. Астроўскага, які, бясспрэчна, мае вялікія заслугі перад беларускім



грамадзянствам у найбольш трагічныя часы. І наагул, уся гэтая публіцыстыка неяк штучна прычэплена да прыгожага твору. Чаму-ж так выйшла? Ці дзеля таго,што, да зьяўленьня ў сьвет першае аповесьці аўтара, мы зналі яго, як публіцыстага і ён сам ня ведаў, што ён сапраўды пісьменьнік, ці таму, што ён пайшоў за парадай тых, каго ён слухаць не павінен быў, ці проста ён стаўся адбіткай пасьляваенных падзеяў і настрояў беларускае эміграцыі? І хоць-бы ўсе гэтыя элемэнты мелі ўплыў на ход працы пісьменьніка, то, бязумоўна, адыгралі і вялікую ролю дарадчыкі, якіх сам пісьменьнік успамінае ў сваёй прадмове.

Беларуская эміграцыя пасьля Другой сусьветнай вайны падзялілася на дзьве асобныя і варожыя сабе групы, хоць паважнейшых палітычных розьніцаў паміж імі не існавала. Гэты падзел на чорных і белых, якраз, зьяўляецца найбольшай палітычнай слабасьцю нашае эміграцыі. Людзі сталі сварыцца, а на чало высоўваліся асабістыя амбіцыі і парахункі. Сварыліся ўсе, ад верху да нізу. І, як ні дзіўна, у гэтых сварках бралі ўдзел нават і некаторыя духоўнікі. Некаторыя з іх яшчэ па сягоньняшні дзень разносяць па сьвеце творы пекла аб Беларусі. Тады і натварылася шмат плётак, паклёпаў, што цяжка было разабрацца, дзе праўда, а дзе фальш. Асабліва было цяжка разьбірацца маладому беларускаму пакаленьню, якое прымала за праўду ўсё тое, што цьвердзілі правадыры групы, у якой яно знайшлося. Аўтар "Змагарных Дарог", будучы ў той час маладым чалавекам, вырас з адной групай і для яго ўсё іншае, не зьвязанае з гэтай групай, выдавалася варожым беларускай справе. Яно магло выдавацца асабліва варожым чалавеку з гарачым беларускім сэрцам і высока ідэйным інтэлектам.

Як вынікае з прадмовы да твору, галоўным дарадчыкам і інфарматарам быў сп. Кушаль. Трэба сказаць, што ён выканаў вельмі няўдзячную ролю для беларускае гісторыі. Мне прыкра гаварыць аб Кушалевых нацыянальных недахопах, але мушу напомніць, што Кушаль у сваёй дзейнасьці і беларускай працы не заўсёды выказваў беларускую ўстойлівасьць. Хіба-ж не зьяўляецца пацьверджаньнем маіх слоў аб Кушалю той факт, што ён пры немцах стараўся стацца сябрам пануючай нацыі? Таму ён павінен-бы паўстрымацца ад фальшывых інфармацыяў аб сапраўдных беларусах. Шматпакутны беларускі народ распазнае і знойдзе з часам сваіх сапраўдных правадыроў і шчырых працаўнікоў. Яны горда прымуць на сябе адказнасьць за свае пастулкі і спакойна пойдуць на апошні суд. Ці з гэтым лічыўся сп. Кушаль і іншыя дарадчыкі, што рабілі аўтару розныя пасулы адносна дзеючых асобаў і фактаў, — няхай ацэняць самі чытачы. Аўтара, як выхаванца лягернага пэрыяду беларускае эміграцыі і як адбіткі тагачасных настрояў грамадзянства, трэба зразумець ува ўсіх, дапушчаных ім, памылках, хоць ягоным абавязкам было ўсе пасулы праверыць, а не паддавацца цьверджаньням "аўтарытэтаў". На адказнасьці, аднак, і на сумленьні дарадчыкаў застанецца ўся несправядлівасьць, дапушчаная ў крытыцы некаторых асобаў. Між іншым, аўтар гэтага артыкулу таксама паў ахвяраю плётак. Аднак, аўтар аповесьці сваю памылку зразумеў і выказаўся на гэтую тэму ў "Бацькаўшчыне" ад 24 лютага 1963 г. у артыкуле пад загалоўкам "Пасьля першых адгалоскаў".

Лёс неадкрытае афіцэрскае школы апісаны вельмі таленавіта і зложаны ў цудоўную аповесьць, у якой дамінуючым элемэнтам зьяўляецца трагэдыя беларускага народу ў цэласьці. Нажаль, аўтар дапусьціўся пэўных ухілаў і памылак, якія трэба выпраўляць, а недахопы ў зьмесьце папаўняць самому чытачу. Я, аднак, вельмі рад, што паміж былых кадэтаў знайшоўся чалавек, які паставіў помнік хоць і незавяршыўшайся збройнай акцыі сярод найлепшай беларускай моладзі. Чэсьць вам, кадэты!

*Ласкутовіч*

---

**Станься сябрам Беларускага Выдавецкага Таварыства!**

---

***

*Я. ЛЯШЧЫНА*

# "На берагох пад сонцам" Ул. Глыбіннага

Яшчэ адна "адбушаваўшая стыхія", як трапна азначыў кнігу расейскі пісьменьнік К. Павустоўскі, зьявілася на нашым эміграцыйным небасхіле. І то кніга прозы, рэдкі госьць.

Тэхнічна, кніга рэпрэзэнтуецца вельмі ўдала. Зьмястоўна яна разнаякая. І гэта добра.

Як і кажная стыхія, кніга мае свой цэнтар, якому ўсё падпарадкуецца. У кнізе Ул. Глыбіннага гэтым цэнтрам зьяўляецца філёзафічная думка, выказаная вуснамі Міхася Кандратовіча, гэроя апавяданьня "Добры дзень, акіян". Думка гэтая: "Жыві і вечнасьці шукай", ці канкрэтней — шукай вечную красу.

У шуканьні гэтае вечнае красы Ул. Глыбінны бачыць і сваю наканаванасьць як пісьменьніка. Шляхотная мэта, але...

На мейсцы будзе прыгадаць, што *шуканьне вечнае красы* было мэтай арганізацыі "Узвышша", што дзеяла ў Беларусі ў 20-30 гадох г.ст. Узвышэнцы шукалі вечную красу ў нашай слаўнай мінуўшчыне, у Богам не пакрыўджанай беларускай прыродзе, у тэмах волі і пратэсту, каханьня і інш.

Узвышэнец Ул. Глыбінны ў нашую мінуўшчыну, на вялікі жаль, не заглядае, тэмамі волі і пратэсту цікавіцца мала, а сканцэнтроўвае сваю ўвагу на апісаньні прыроды і дачыненьнях чалавека з прыродай. Пісьменьнік бачыць у прыродзе, на тых берагох пад сонцам, адзіны ратунак, адзіны элексір для душы чалавека, прыгаломшанага сучаснай цывілізацыяй, асабліва ў гарадох, правенджаных дымам бэнзыны, напоўненых забойцамі Бобамі Браўнэлямі, "кіднапэрамі" Вільямі Колэманамі і інш. Для падмацаваньня гэтае апошняе думкі аўтар і ўключыў, мне здаецца, у сваю кнігу два, далёкія ад усялякае красы, ня кажучы пра вечную, дэдэктыўныя апавяданьні: "Дваццаць чатыры гадзіны Боба Браўнэля" і "Зялёны атрамант". У іх і тэматыка, нарачыта запазычаная з тэлебачаньня, экраны якога грымяць стрэламі бандзюгаў, зіхацяць нажамі... Гэтыя апавяданьні — на мейсцы. Яны самі па сабе ніякай мастацкай каштоўнасьці ня маюць, але дапамагаюць адцяніць гэрояў іншых апавяданьняў, людзей іншага складу: эстэтаў, прыродалюбаў, рамантыкаў. Гэтакімі ў кнізе "На берагох пад сонцам" зьяўляюцца Міхась Кандратовіч, Пётра Абуховіч, Мікола Чарэмха, Лявон Баровіч і інш. Усе яны — беларусы, людзі аднаго душэўнага складу. Ім, як таму Коласаваму "хлопчыку малому" не сядзіцца ў хаце каля тэлевізараў, цягне іх на акіян, у лес, на берагі вазёраў, рэчак. Там яны знаходзяць душэўны супакой, а не ў пагоні за "даляркамі", у захапленьні "овэртаймамі", як гэта робіць Хвядос Гадкоўскі, гэрой апавяданьня "Пётра Абуховіч, Рывэр-сайдзкі мрыйнік".

У Амэрыцы, ды ня толькі ў Амэрыцы, Хвядосаў Гадкоўскіх значна болей, як мройнікаў ды рамантыкаў, тыпу Пётры Абуховіча. Ды не такіх, якім малюе пісьменьнік Глыбінны свайго Гадкоўскага, а сапраўды гадкіх у сваёй жадобе і ненасытнасьці. Гэта, праўда, хворыя людзі. Змагацца з гэтай хваробай можна і трэба, і то — сьмехам, кпінамі, як гэта робіць Пётра Абуховіч. Але трэба ведаць, над кім сьмяяцца, і самому быць на вышыні. У выпадку з Пётрам Абуховічам і Хвядосам Гадкоўскім гэтая ўмова не датрымана. Пётра Абуховач сымпатычны ў сваім вялікім суме па страчанай бацькаўшчыне Беларусі, у захапленьні зорамі, шпакамі, але аўтар чамусьці ня кажа, чым ён займаецца, як ён жыве. З таго, што можна даведацца з апавяданьня, выглядае, што ён гультай. Таму ў сутычцы з "матэр'ялістым" Гадкоўскім ён выглядае пераможаным. Ізноў-жа, слова "матэр'яліст" я ўзяў у двукосьсе таму, што з апавяданьня гэтага ня вынікае. Такім эпітэтам можна нагродзіць кожнага працаўніка, якім зьяўляецца Гадкоўскі. Тое, што ён захапляецца "овэртаймамі", а ня зорамі, яшчэ не гаворыць за тое, што ён матэр'яліст, ненасытны жадзюга. Я сам часта "захапляюся" гэтымі "овэртаймамі". "Захапляюся", бывае, да таго, што ня любыя ні тыя зоры, ні шпакі, якіх я ня меней за Абуховіча люблю. Для таго "захапленьня" шмат ёсьць незалежных ад цябе прычынаў. Папершае, калі некалькі разоў адмовішся ад "овэртайму", там, дзе няма юніі, могуць выгнаць,



як гультая. Па-другое, бывае, нехта з тваёй сям'і ляжыць у шпіталі, яму рабілі апэрацыю... Калі ня маеш іншуранса, шмат давядзецца "захапляцца", аж захлынацца, каб расплаціцца з шкурадзёрамі-дактарамі. Па-трэйцяе, дзеці растуць, думаеш даць ім вышэйшую адукацыю... Шмат ёсьць прычынаў, бадай, і ў таго Гадкоўскага, каб пасьпяшаць на хвабрыку, мае ён слушнасьць, калі кпіць з таго гультая Пётры Абуховіча, якога і цёшча гоніць з хаты, ды жонка, напэўна, сьлёзы пралівае, што вышла замуж за абібока. Хай даруе мне аўтар, але ён такім выглядае, бо паказаны аднабакова. Сустракаешся з ім толькі на вуліцы, дзе ён любуецца Боскім стварэньнем, абураецца на Гадкоўскага, а апошні пасьміхаецца над ім. І ўсё. Не, недаапрацаваны гэты твор. Сымпатыя чытача на баку Хвядоса Гадкоскага. Нават і прозьвішча, дадзенае яму аўтарам наўмысьне, каб падчыркнуць яго гадкасьць, не дапамагае.

Другая справа — Лявон Баровіч — гэрой аповесьці "Прыгоды Лявона Баровіча". Гэты гэрой болей удаўся Глыбіннаму. Як і Пётра Абуховіч, ён — чалавек прыроды, але ня мройнік, а рэаліст. Лявон Баровіч — прафэсар. Ён мае болей за Пётру Абуховіча магчымасьцяў уздыхаць, гледзячы на зоры, але мы яго бачым на берагох рэчак з вудаўём у руках, ці ў адырандакскіх горах са стрэльбай за плячыма. Цяга да бадзяньня ў Баровіча не абумоўлена псыхікай забойцаў, да якіх я залічаю ўсіх заядлых паляўнічых, што гатовы джвагнуць і ў месяц, абы з яго кроў пацякла. Баровіч уцякае ў лес, на рэчку, каб забыцца пра ўсё і ўсіх, разьвеяцца, аддыхнуць душой. Ганяючыся за тым аленем у адырандакскіх горах, ён дэклямуе вершы Багдановіча. І мне здаецца, Баровіч наўрад ці стрэліў-бы ў аленя, каб яго насьціг. Ён пашкадаваў-бы яго, як пашкадаваў пракалоць віламі сома, што мірна спаў каля берагу рэчкі (апавяданьне "Сом"), ды кінуўся ратаваць казулю, што выпадкова ўляцела з абрыву ў возера і пачынала тапіцца (апавяданьне "На берагох пад сонцам"). Баровіч любіць дзяцей, умее з імі жартаваць (апавяданьне "Жарты Лявона Баровіча", дарэчы, адно з сьвяжэйшых апавяданьняў). Нарэшце, ён загараецца каханьнем да чыстай і прыгожай дзяўчыны Ліны Бэрн ("Каханьне Ліны Бэрн"). Праўда, рамантыка часам давадзіць людзей да шыбеніцы і самагубства. Лявона Баровіча яна давяла да здрады жонцы. Сапраўды дзіўна і сьмешна глядзець, калі сівагаловы прафэсар бегае, як дзяцюк, па бярэзьніку за сваёй, можна сказаць, дачкой Лінай Бэрн, каб пацалаваць... Такія выпадкі ў жыцьці бываюць. Расейскі пісьменьнік Набокаў праславіўся сваёй "Лолітай", але расейская крытыка яго не пахваліла. Дык, ці варта насьледуваць дрэннае, шукаць вечную красу там, дзе вельмі лёгка можна забрудзіцца? Думаю, не. Другая справа, калі-б Баровіч быў роўня Ліны Бэрн. А так — амаральнасьць. Што да Міхася Кандратовіча, Міколы Чаромхі і іншых рамантыкаў, дык яны нічога "свайго", апрача прозьвішчаў, ня маюць. Іх функцыі сьмела можна было-б перадаць Лявону Баровічу.

Пісьменьніку Глыбіннаму удалося знайсьці тое, што шукаў. Вечная краса ў крыку Гэнрыка Шлегеля: "Што ты робіш, чалавек, апомніся, пабойся Бога", у суме Агаты, у дабрацэ беларусаў, што ўратавалі Шлегеля ад сьмерці ("Сьмерць Гэнрыка Шлегеля"). Вечная краса ў крыку сома: "Хіба табе ня сорамна было гэтак хціва падыйсьці да мяне, калі я, як нявіннае дзіця прыроды, цешыўся сонечнымі дарамі прыроды, а ты перапыніў маю ўцеху і гэтак брутальна ўвагнаў мне ў голаў гэты нясьцерпна-балючы камель? Ганьба і пракляцьце вашай чалавечай хцівасьці і падступству. Згінь" ("Сом"). Вечная краса ў крыку дзяцей дзікаабраза над сваёй матуляй, задушанай коламі аўтамашыны ("Там, дзе цьвіце бружмель"), у крыку-пратэсьце Бутрымовіча, у сьмеласьці паэта Мацея Грушынскага (аповесьці "Да родных берагоў"), у крыку-пратэсьце Пётры Іванавіча ("Цудатворны знак").

У апісаньні прыроды пісьменьнік можа, як кажуць, размахнуцца сьмела, на ўсю сілу. Праўда, тыя вада ды сонца, зьвяры ды птушкі гэтак "абскублены" паэтамі і пісьменьнікамі, што знайсьці цэлую, некранутую "пярынку" ў той прыродзе амаль не магчыма. І ўсё-ж Глыбіннаму ўдалося тое-сёе "выскубнуць".

Перш за ўсё хочацца адцеміць вельмі ўдалыя замалёўкі паляваньня "бэсаў" ды паланеньне малявак, ("Калі вазёры сьвецяцца ружовым водблескам", бачыны 105 і 106). Ёсьць сьвежыя параўнаньні: "Тлустыя чарнявыя сьпіны вусачоў, быццам галавешкі на напале-

ным пячным сподзе . . . "; "Усё дно, здавалася, пераліvалася бясконцымі бліскавіцамі", "Звонкую, як рэха" і інш. Ёсьць удалыя сьвежыя мэтафары: "Раніца пачала рашуча наступаць што раз ярчэйшай белатою і выбіваць цемру з кожнай шчыліны", "Ён (акіян) часта падыходзіў да дарогі й звабна ўзіраўся ў яе задумёнымі вачыма сваіх сініх затокаў . . ."

Проза Глыбіннага пераважна эпіка-лірычная. Яго сюжэты ня маюць драматызму дзеі (за выняткам пары дэтэктыўных апавяданьняў), а таму пазбаўлены ўнутранай дынамікі. Але гэты недахоп часткова кампэнсуецца экспрэсыўнасьцю ("Пеністы шквал дзень і ноч грукоча аб берагавы грэбень . . ."), гібкасьцю ("Тысячы жгутоў, абвітых у сваю чаргу рознымі калючымі паўзунамі, нібыта вяроўкамі, паскручвалі ўсю прастору паміж дрэвамі . . .", напеўнасьцю радка: "А тут табе воля і шчасьце пад гэтым цёплым сонцам, дзе вока міжвольна люляюць мяккія зялёныя паплавы, дываны белых рамонкаў, велічныя зялёныя горы, а вуха цешыць гоман бароў, песьня бягучае вады ручаінаў, вясёла-ажыўлены шчэбет птушак, буркаваньне дзікіх галубоў, разнастайная музыка безьлічы стракатых мятлікаў і конікаў, плёскат срыбнае рыбкі пад навіслаю над вадою вярбою, чырканьне ластаўчынага крыла па люстранай, празрыстай, як дзявочая сьляза, горнай рачулцы".

Гэты, апошні сказ, прыклад дадатняга, зьяўляецца і прыкладам адмоўнага — даўжэзнасьці сказу, зьявы для мастацкай прозы, ня кажучы пра вершы, не характэрнай. Без перадышкі такі сказаць прачытаць нельга. А трэба сказаць, што гэты сказ ня вынятак, а нейкае правіла Глыбіннага. Гэтае і апісаньне непатрэбных дробязяў (пасадка ў машыну, "стартаваньне" матору, павароты ды выезды з "гайвэю" на "гайвэй" і інш.) запавольваюць чытаньне твору. Упадатак да гэтага ёсьць няправільная інвэрсыя слоў ("Сталае шапаценьне надавала лесу таямнічасьці схаванага ад людзкога вока, але ўсюды прысутнага жыцьця"). Ня ведаю, чаму аўтар слова "голаў", жаночага роду, ужатрабляе ў мужчынскім родзе: "Ягоны самавіты голаў", "Свой задзірысты голаў"? Ня вычуваецца індывідуалізацыі мовы гэрояў. Прыкладам, Ліна Бэрн гутарыць гэтак-жа павучонаму, як і прафэсар Баровіч. Нясмакам вее ад натуралістычнага партрэту Ліны Бэрн. Гэтыя вось "з сінявата-ружовымі пыпкамі на вяршалінах" выклікаюць сумлеў у чысьціні адносін паміж закаханымі ды кладуць цень на гэрояў і на самога аўтара.

І ўсё-ж, ня гледзячы на гэтыя недагляды, у творах, тут разгляданых, шмат вечнае красы. На яе я ўжо паказаў, але пра адну красу наўмысьне прамаўчаў, каб паказаць на яе тут, пры канцы. Яна, — у словах, поўных болі, суму па радзіме: "Адылі, хоць ты, чалавеча, і ня маеш крыльляў, таксама ходзіш па зямлі наканаванымі табе звышні адвечнымі шляхамі. І хаця-ж часам лёс і заносіць цябе далёка ад бацькаўскага дому, усё-ж душа твая вечна неспакойная й шукае звароту на тыя-ж бацькаўскія сьцежкі, яна сумуе на чужыне па родных загонах, марнее й смыліць думкамі аб тым, што лёс пазбавіў нас дарогі да роднае хаты. І як-бы добра табе ня было тут, адно гняце сьведамасьць, што ты тут толькі ў гасьцёх, хай сабе й гасьцінных і ветлівых, але ўсё-ж у чужой хаце. І колькі-б ты ні прывыкаў да новае айчыны, а ў снох цябе будзе неадступна пераследаваць абраз роднае хаты, дзе ты ўпяршыню ў жыцьці пазнаў смак іржанога хлеба на кляновым лісьці ды нагбом першы раз напіўся цёплага сырадою".

Ды яшчэ: "Вы не падвялі мяне, родныя берагі. Таму я зноў веру ў вас, у вашу адвечную здольнасьць прыўзьняць з паняверкі роднага сына. Дзякуй вам за гэта вялікае для чалавека шчасьце пазнаньня праўды. Я яшчэ вярнуся да вас, я моцна веру ў гэта. Таму я пэўны, наша спатканьне адбудзецца хутка, і яно будзе яшчэ больш радасным і абнадзейваючым. Дабранач, да сустрэчы, сястрыца-рака й вы, родныя прасторы. Дабранач, горад пакутаў і нябачаных радасьцяў. Я яшчэ прыду да вас. Прыду. Чакайце".

Прыгожыя словы. Але, каб яны зьдзейсьніліся, пісьменьніку Глыбіннаму, мне думаецца, трэба не сядзець з вудаўём у руках на чужых берагох пад сонцам, а ўзыйсьці на галоўную магістраль вялікай літаратуры — болей цікавіцца тэмамі волі і пратэсту.

**



УЛ. ГЛЫБІННЫ

# На шляху да паэтычнага мастацтва

(Зборнікі вершаў Міхася Кавыля "РОСТАНЬ" і "ПАД ЗОРАМІ БЕЛЫМІ")

У пасьляваенныя гады беларуская літаратура ў вольным сьвеце збагацілася колькімі новымі выданьнямі зборнікаў вершаў паэтаў-эмігрантаў. Сярод іх тут варта назваць зборнікі вершаў Масея Сяднёва "У акіяне ночы", "Цень Янкі Купалы", "Спадзеваньні" ды "Ля ціхай брамы", зборнік вершаў Алеся Салаўя "Сіла гневу", Рыгора Крушыны "Лебедзь чорная", Я. Юхнаўца "Шорах моўкнасьці". Сярод гэтых неадналькавых па літаратурнай каштоўнасьці кніжак з гледзішча тэматычнае разнастайнасьці і паэтычнага майстроўства выгадна вылучаецца зборнік вершаў паэты Міхася Кавыля, "Пад зорамі белымі", што ў 1954 г. выйшоў на амэрыканскай зямлі ў Нью-Ёрку. Міхась Кавыль належыць да маладое плеяды беларускіх паэтаў, што пачыналі свой літаратурны шлях ў пачатку трыццатых гадоў, калі ў паэзіі давала сабе ведаць ужо намножаная маладымі папярэднікамі паэтычная культура. Калі лепшых паэтаў-узвышэнцаў, як Уладзімер Дубоўка ці Уладзімер Жылка, не заўсёды беспасярэдне ад носьбітаў высокае вершавальнае тэхнікі, дык прынамсі ад агульнае паэтычнае культуры тае пары Міхась Кавыль пераняў шмат дадатных бакоў сучаснага тэхнічна-удасканаленага, мілагучнага, лёгкага і прыемнага для чытаньня вершу. Ужо ў 1931-1932 гадох Міхась Кавыль пад псэўдонімам Маёвага надрукаваў колькі неблагіх, як для пачынаючага паэты вершаў у часапісе "Маладняк" і іншых выданьнях. Ужо тады ў іх адчувалася тагачасная культура (галоўна праз уплывы Паўлюка Труса і яму падобных паэтаў) і неблагое валоданьне вершам. Аднак тады яшчэ не пасьпеў малады паэта выявіць свой талент, як нешчасьлівы кон, што асочваў кажную сьведамую беларускую душу ў тое ліхалецьце, кінуў і яго ў скляпеньні турмы ГПУ-НКВД, а затым пагнаў на тры гады ў выгнаньне на савецкую катаргу ў далёка-ўсходнія лягэры Сібіру. Пасьля адбыцьця тэрміну зьняволеньня — звычайныя гады бадзяньня па Расеі праве́ў без магчымасьці літаратурнае дзейнасьці на бацькаўшчыне. Гэтак і загінуў-бы паэта для роднае літаратуры, як загінулі шмат уталентаваныя, а часам і гэніі беларускае літаратуры на выгнаньні або ў бязрадасным марненьні за межамі Беларусі пасьля адбыцьця тэрмінаў засланьня. Але Міхасю Кавылю доля, відаць, наканавала іншае. Пасьля вайны ён апынуўся ў вольным сьвеце, дзе зноў здабыў магчымасьць тварыць, пісаць і нават час-пачасе выдаць асобныя зборнікі.

У выдадзеным у 1947 г. ў Рэгэнсбургу, Зах. Нямеччына, зборніку "Ростань" Міхась Кавыль адлюстраваў настроі беларускага эмігранта ў пасьляваеннай разбуранай Нямеччыне з яе лягерамі для перамешчаных асобаў. Сум па бацькаўшчыне, успаміны прыгожасьцяў роднага краю, што ўва ўмовах шэрага лягернага жыцьця на чужыне перарасталі ў зоркія трызненьні і паэтычна-ідэалізаваныя ўявы родных палеткаў, афарбавалі гэты зборнік мінорна маркотлівымі адценямі. Аднак паміж салодкага суму ўспамінаў пра бацькаўшчыну ўжо і тады ў Кавыля прарываліся часамі радкі ацэны іншага сьвету, у кім апынуліся выгнаньнікі. Паэта як-бы спалучае ў адно вызнаньне каштоўнасьцяў чужыны з непераадольнымі абразамі Беларусі. Супярэчлівае сутыканьне родных прывідаў з красою бачаных краявідаў чужыны дае паэтычны абразок, годны таго, каб яго тут прыгадаць чытачу:

1) Турынгія — царыца!
Зялёныя лясы . . .
Ніяк мне ня упіцца
Віном твае красы.
Люблю твае я горы
У прываблівых лясох,
Ды сьняцца мне ўзоры
На слуцкіх паясох.

3) Жалеяк сумных граньне,
Дзяўчын задуманых сьмех,
Ды Слуцкіх сьвітаньні

Мне мроящца ў сьне...
Турынгія — царыца!
Зялёныя лясы...
Ніяк мне ня упіцца
Віном тваe красы.

Але найлепшым упрыгожаньнем зборніку "Ростань" была паэтычная паэма — "Пад небам Случчыны каханай", якая ўпяршыню была выдрукавана ў ілюстраваным "Новы Шлях" ў 1944 г. Яна станавіла ўзор патрыятычнай і разам з тым высокаякаснай лірычнай паэмы, дарма што хвормаю будовы таксама як і паэма Алеся Салаўя "На крыльлях вольнага Пагаса", нагадвала "Тэстамэнт" Уладзімера Жылкі. Ды зрэшты сам гэты факт можа толькі сьведчыць дадатна пра правільна абраны ўзор дасканалага мастацкага твору для насьлядаваньня. А кажнаму беларускаму аматару паэзіі і патрыёту было прыемна прачытаць у мілагучным прыгожыя радкі паэмы з адэкватнымі яму настроямі замілаваньня да роднага краю:

1) Гатоў штодзень я быць данарам,
Па кроплі кроў аддаць сваю,
За васільковыя прасторы,
Дзе людзі моладасьць маю
Таптані бруднымі нагамі,
Дзе жыў мой бацька, любы дзед...
Дзе над лугамі-мурагамі
Іскрыцца сонца агняцьвет.
3) Хачу я крыкнуць родным хатам,
Дзе льлецца Случ, мая рака —
Мілей за тысячы дукатаў
Цьвяток радзімы васілька.
З прастораў Случчыны каханай,
Дзе зоры сыплюцца ў расу,
Дзе я пазнаў жыццё так рана
I краю роднага красу.

Аднак зборнік "Ростань" не адзначыўся шырынёй тэматыкі, выглядаў беднаватым з глездзішча паэтычных хвормаў, аднастайным ў сэнсе лексыкі. Паэта часта паўтараў адны і тыя-ж азначэньні, сьцертыя і застарэлыя эпітэты. Край часам азначаўся словам "залаты", Беларусь "кветкай", часта ўжывалася параўнаньне з васілёчкамі або азначэньне "васільковы". У некаторых вершах занадта відавочна адчуваўся ўплыў або простае насьлядаваньне Сяргею Ясеніну, Купале, як у вершы "На скрыжаваньні дарог" (варыяцыі купалаўскага вершу "Перад будучыняй"), М. Багдановічу ў вершы "Ня кувай" і інш. Былі насьлядаваньні Паўлюку Трусу, а часьцей не дастаткова творча пераапрацаваны народны матыў. Было досыць і элемэнтаў маладнякоўскае бурапены ды штучнага надрыву. Ратавалі аднак, удалыя хаця-ж і ня новыя паэтычныя вобразы, накшталт абразка ў вершы "Не раскратаю струн":

Прывялі... Вецер блытаў ёй косы...
Вочы кат ручніком завязаў...
У халодныя буйныя росы
Пакацілася зорка-сьляза.
2) Пакацілася. Зьнікла. Нікога...
Хто запаліць другую зару?
Завілася ў цернях дарога
I мая і твая, Беларусь

Новы зборнік вершаў Міхася Кавыля "Пад зорамі белымі" сьведчыць аб значным пашырэньні тэматычнага дыяпазону і далейшым падвышэньні паэтычнага майстроўства. Неўтаймаванае сэрца паэты адгукнулася на шмат якія бакі эміграцыйнае рэчаіснасьці. Паэта чя толькі натхняўся і раскратваўся ўспамінамі пра нявольную бацькаўшчыну, але і ўвабраў у дыяпазон свайго паэтычнага зроку колькі зьяваў амэрыканскага сьвету, прысьвяціў колькі вершаў рэальнай запраўднасьці, як "У акіяне;', "Прыстань", "Нью Ёрк", прапусьціў праз свой зрок колькі кантрастаў штодзённага жыцьця ў новым сьвеце. У некаторых вершах Кавыль закранае і спрабуе вырашаць па-свойму філязофскія пытаньні. У гэтым пляне лепшым можна назваць верш "Хоць лістом зеляніцца" з яго роздумам аб колаабароце ў арганічнай прыродзе:

Пацячэ з карэньня да вяршалін,
Сок салодкі, пахная жывіца.
Хай мяне-б карэньні адшукалі
Пад зямлёй — хоць лістам зеляніцца.

З роздумам паэта ўглядаецца ў зоркае неба і ў прыгожасьці сузор'я Скарпіён бачыць крыніцу натхненьня паэтаў, (хаця-ж аўтару і можна закінуць, што занадта малым адрэзкам часу ён нераз час існаваньня плянэты і сусьвету, калі выводзіць пачатак "ад сівых варагаў":

Пазіраеш на зямлю ўпотай,
Прыгажуньня, думаеш, сусьвету.
Абальлеш кагось халодным потам
I... на сьвеце больш адным паэтам.

Падобна Янку Купале з яго абяцаньнем выходзіць сваёй ценьню з магілы, каб сузіраць вызваленую бацькаўшчыну, Кавыл, гледзячы на маладзік, абяцае "падымацца" із магілы паглядзець на месяцца каханьне..." Цікавы думкаю верш "Храм", што выяўляе трагэдыю чалавека, які за даўгія гады падсавецкага жыцьця страціў беспасярэдняе адчуваньне веры ў Бога, дарма што імкнецца да яго, як краска да сонца. Усьведамленьне магчымасьці аднаўленьня веры толькі праз веру сэрца змушае паэту шукаць магчымасьцяў арганічнага ня толькі ад розуму, але і ад пачуцьцяў перакананьня. —



Я знайду сваё шчасьце ў храме,
Калі ў сэрцы збудую храм.

Здольнасьць да глыбейшага асэнсаваньня зьяваў жыцьця выгадна вылучае паэту Міхася Кавыля сярод нашых эміграцкіх паэтаў, што не вылучаюцца ані філёзофскай глыбінёй, ані дыяпазонам культурных зацікаўленьняў. Міхась Кавыль сваёй кнігай "Пад зорамі белымі" сьведчыць пра наяўнасьць у яго і шырэйшых чытацкіх заінтэрэсаваньняў (нават пераклад з Гётэ "Над вяршынамі гор") гэтак і імкненьняў выцягнуць з-пад знадворнай зьявы глыбейшы філёзофскі сэнс. Прыкладам, у 1947 годзе паэта зазнаў цяжкасьці і пакуту працы ў бэльгійскіх капальнях. Яны адгукнуліся ў яго творчасьці цыклям моцных, выразістых вершаў, сваім часам надрукаваных у літаратурна-мастацкім часапісу "Шыпшына". З іх у зборнік "Пад зорамі белымі" ўвайшлі верш "Падзямельная песьня". Гэта высокародны твор аб тым, як пад зямлёю, у капальнях, зьяўляецца ў паэта перакананьне аб велічы Божага стварэньня. Цяжкая праца выклікала не пэсымізм і ныцьцё, якіх у сьвеце і бяз гэтага хоць адбаўляй. Роздум паэты спараджае сьветлую думку аб разумнасьці зямнога скляпеньня і мудрасьці Усявышняга:

Не праспэкты суворыя штрэкі,
Не на ігрышча іду я ў ручу —
Надамною вазёры і рэкі,
Падамною агонь няўміручы.
Патаёмнасьць і веліч тварэньня,
Даляміты і вугальны камень...
Не, ня час, а магутнейшы гэні —
Бог стварыў ўсё зямное рукамі.
Гэтай думцы было калісь цесна
У галаве маёй, зараз — прастарней
Падзямельная ціхая песьня
Супакоем мне сэрца агорне.

Гэты філёзафічны кірунак паэзіі Міхася Кавыля разам з тэматычнай разнастайнасьцяй, якая выявілася ў тым, што паэта ня цураецца кантрастаў нашага эміграцыйнага жыцьця і паэтычна адтварае новыя ўражаньні, шпаркі тэмп жыцьця, машыны і небаскробы, узбагачае нашу паэзію новым зьместам. Ужо ў гэтым вялікая каштоўнасьць творчасьці Міхася Кавыля. Але паэта па-ранейшаму застаўся ў палоне прывідаў бацькаўшчыны. Часьцей якойбы тэмы Кавыль не кранаўся, ці ў пошуках чалавечае спагаднасьці, цяплыні, сяброўства і шчасьці, ці ў вялікім цыклю вершаў пра каханьне, ён заўсёды застаецца пад уражаньнем чараў бацькаўшчыны. Вобраз каханьня ў яго лірыцы заўсёды атоесамліваецца з прыгажуньнямі сінявокай Беларусі, а з імі, паводле Кавыля, не вытрымліваюць ніякага спаборніцтва ўсе чужынскія дзявочыя постаці. У вершах аб каханьні да роднае дзяўчыны паэта часта дасягае трапных параўнаньняў, сэнсавае вытанчанасьці:

Мы ішлі пад цудоўныя гукі:
Аб каханьні шумела трава...
2) Я трымаў тваe мілыя рукі,
Мне здавалася — сьвет я трымаў.

"Баляда аб Танюшы" дапаўняе абраз беларускае дзяўчыны вобразам партызанкі-патрыёткі, што загубіла жыцьцё ў змаганьні з чырвонымі бандытамі. Праз усе вершы Кавыля праходзіць вера ў тое, што змаганьне за бацькаўшчыну ня скончанае, што настане час, і "зямлю маланкі зноў ахрысьцяць". Паэтычны герой Кавыля зазнае лёс галодных вояў за Беларусь. Ён пакінуў бацькаўшчыну, каб захаваць веру ў нацыянальныя перакананьні і таму ён поўны наважаньня помсты чужому груґану, што гойсае па родным палеткам. Як-бы ў адпаведнасьці з настроямі гэтага героя Кавыль у "Маёй малітве" просіць Збавіцеля і Уладара, народжанага ў Віфлееме, зьйсьці з неба, каб на гэты раз не навучаць, але караць. Паэта абяцае, што ўсе раскрыжаваныя пойдуць за Ім "у сьвяты, апошні бой". Кавылёў юнга плыве ў чоўне па разюшаных хвалях у часе буры, ня губляючы веры ў будучае вызваленьне. А ў вершы "Ідзі, ідзі" даецца запавет змагару ня спыняцца і крочыць уперад да мэты. Верай, што вырай кончыцца, падагрэтае кажнае прыгадваньне:

Беларусь, ты мая, Беларусь,
Няўгасная зорка Вэнэра,

Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрашэньне веру.

З гледзішча паэтычнае школы Міхась Кавыль добра зрабіў, што ўзяў сабе за ўзор паэзію нашага няўміручага Максіма Багдановіча. Праўда, не адзін Багдановіч зьяўляецца мэнтрам Кавылю. У першым-жа вершы, якім адчыняецца зборнік і ў якім паэта спрабуе ня зусім удала азначыць сваё разуменьне паэзіі, відавочны ўплыў Ул. Маякоўскага. У вершы "З прастораў" ёсьць пэўнае насьлядаваньне мэлёдыйнасьці Уладз. Дубоўкі, ягонай "Налі". У дзе-каторых назовах паўтараюцца ўжо скарыстаныя іншымі назовы твораў, як скажам, "Ідзі, ідзі" паўтарае назоў раману Кузьмы Чорнага, а "ТБЦ" — той-жа назоў вершу Эдуарда Багрыцкага. У вершы апошняга "ТБЦ" паэту наведвае чырвоны кат Дзяржынскі і чытае яму настаўленьне сувора абыходзіцца з спадчынай старога сьвету, які не дае спакою паэту, раіць яму за прыклад узяць ягоную крывавую расправу з ворагамі рэвалюцыі і таксама бязлітасна спаліць усе масты да мілага.

Врагі пріходілі — на тот стул
Саділісь і рушілісь в пустоту.
Іх нежные кості сосала грязь.
І подпісь на пріговоре вілась
Струёй із престреленной головы.

У вершы М. Кавыля хворага на ТБЦ паэты ў шпітальным пакою ў часе трызьненьняў наведвае сьветлы ўспамін пра Максіма Багдановішча. Гэткім чынам Кавыль скарыстанай раней іншым паэтам тэме надаў высокароднасьці і ўдала скарыстаў для нашай нацыянальнай паэзіі. Параўнаньне сваe долі з доляй Максіма Багдановіча як-бы прымірае гэроя з лёсам і пераключае ўвагу да постаці выдатнага творцы і майстры беларускага вершу. Як-бы ў пераклíканьні з вершам "Стаяў ля Ай-Пэтры", у якім гаварылася аб Багдановічу ў Крыму, дзе "зоры вышывалі маўклíва санэт, па далінам плылі тэрцыны, а ў моры зьвінеў трыялет" беларускага песьняра красы, тут Кавыль з вялікай прачуласьцю адтварае постаць "песьняра слуцкіх ткачоў", "дайліды неразгаданых словаў".

Пастой, паглядзі...
На вяршыну гары Ай-Пэтры
Узышоў чалавек адзін.
Узышоў і ўпаў.
Так балюча
нам зрабілася ўсім...
Непаўторны,
неўміручы
Багдановіч Максім.
Ты нічога аб ім ня чула,
Ты ня ведаеш, сястра,
Як любіў ён сэрцам чулым
І народ свой, і край.
Багдановіч — гэта дойлід
Неразгаданых слоў.
Ды над ім завязала доля
Перавясло...

Дарма што ў гэтым кульце Багдановіча нямала ўплываў Ул. Дубоўка з яго зборнікам "Трысьцё" ды іншымі. Аднак сам факт, што тут, на амэрыканскім беразе, знайшліся насьлядоўнікі ўзвышанскага культу паэтычнага мастацтва Багдановіча, зьяўляецца пацяшальным і акрыляючым у сэнсе прадаўжэньня лепшых літаратурных традыцыяў у вольным сьвеце, каб некалі перадаць яго і панесьці далей на літаратурныя ўзвышшы ў вольнай бацькаўшчыне. І добра тое, што Кавыль ня толькі дакляруе але і ў творчасьці спрабуе насьлядаваць Багдановічу. Кавылёў верш "Санэт" у пэўным сэнсе зьяўляецца ўзорам гэтае хвормы, незраўнаным майстрам якое і быў Багдановіч. Яшчэ ў 1911 годзе Максім Багдановіч напісаў тэарэтычна-гістарычны нарыс "Санэт". У ім ён даў падставы для дакладнага азначэньня гэтае хвормы. Кавыль датрымаў усе вымагі што да санэту і даў запраўды верш у чатырнаццаць радкоў ямбам, у якім чаргуюцца мужчынскія рыфмы з жаночымі паводле схемы: абба, абба, ввгдгд. —

Я разгубляў санэты ля дарог,
Калі хаваўся ад сябе самога.
Я не прасіў ратунку у нікога,
І сам нікога ўратаваць ня мог.
Мінулі дні. Ступіў я за парог
Другой зямлі, ня выклятае Богам.
Хоць у грудзёх ня выцьвіла трывога,
Ды прывід сьмерці тут я перамог.
Час уваскрасіць мілыя санэты,
Час разбудзіць тэрцыны, трыялеты,
Хай на чужой, нявеглівай зямлі.
Век не бадзяцца сумнаму па сьвету,
Плакаць аб тым, што ружы адцьвілі...
Стальлю зьвінець павінен верш паэта.

Мы сумысьле замянілі ў апошнім радку Кавылёва слова "мусіць" на слова "павінен" дзеля таго, што першае з іх ламае радок вершу. Мы тут сапраўды бачым, што першыя восем радксў гэтага санэту змацаваныя ланцугом аднолькавых рыфмаў у адно цэлае і становіць сабой адзін маналён з зусім новым, Кавылёвым зьместам. Для ўзмацненьня гэтае цэласьці, каб пачатак не адпластоўваўся рыфмы (націск на апошнім складзе). А далей ужо іншыя рыфмы, каб заключыць шэсьць радкоў адлучаліся і хвармальна ад пачатку санэта. Гэткая хворма санэту спрыяе вылучэньню ў ім двух асобных частак, як-бы незалежных адна ад другое і разам з тым закончаных сабою. Сапраўды ў першай часцы Кавылёвага санэту гаворыцца аб часе, калі было не да санэтаў, калі прыходзілася ратаваць жыцьцё і хавацца ў часе рэпатрыяцыі. Затым гаворыцца аб тым, што настроі зьмяніліся, калі паэта ступіў на гэты бераг, дзе паэта перамог "прывід сьмерці", хаця-ж "у грудзёх ня выцьвіла трывога". Гэта разам становіць агульны абраз псыхалягічнага стану паэты. У другой частцы ўжо гаворыцца пра неабходнасьць аднавіць творчасьць прыгожых хвормаў у паэзіі, заклікаецца ўвага да клясычных хвормаў тэрцынаў, трыялетаў ды санэтаў. Здаровы сэнс творцы падказвае патрэбу пакіданьня сумнага ныцьця "аб адцьвілых ружах" і наданьня вершу сталёвага гарту клясычных хвормаў. Гэта другая частка адлучана ад першай ня толькі сэнсава, тым, што становіць заключэньне да тэмы, разгорнутай у першых васьмі радкох, але і належным фармальным адрозьненьнем. Яно і ўзмацняе ўражаньне ў чытача і спрыяе ўмацаваньню адчываньня прыгожасьці санэту. Пад аднэю шкарлупінай гэтага твору як-бы хаваюцца два ядзерка, дарма што моцна спалучаныя агульнай ідэяй вершу. Вышэйшая прыгожасьць тут дасягаецца і тым, што ніводзін элемэнт вершу ці слова не паўтараюцца, усе цэглачкі слоўнага матарыялу гэтае пабудовы сьвежыя і выразістыя. Багдановічавы санэты станавілі для Кавыля цудоўныя ўзоры для насьлядоўніцтва. Значаньне ўдачы Кавылёвага санэту яшчэ павялічваецца, калі прыгадаць, што санэт не заўсёды ўдаваўся нават вялікім мастаком слова. Досыць прыгадаць, што нават Пушкін не датрымаў усіх вышэй пералічаных вымагаў да санэту і ў вершы "Суровый Дант не презірал сонета" трымаўся толькі знадворных адзнакаў чатырнаццацірадкоўя, падзеленага на два чатырохрадкоўя і два заключных трохрадкоўя.

Будзем-жа спадзявацца, што гэтак як ужо зварот да ўзораў Багдановічавае паэзіі збагаціў хворму вершаў Кавыля, ён заўсёды будзе клікаць паэту на тую вяршаліну паэтычнага майстроўства, у дарозе да якое кажнага таленавітага паэта могуць спаткаць вялікія ўдачы і здабыткі для паэтычнага мастацтва.

Хацелася-б аднак, каб Кавыль больш працаваў над культурай мовы і пазбавіўся тых русыцызмаў, якія яшчэ дзе-недзе ў яго трапляюцца, як "улюбляны" замест "улюбёны" "уходзілі" замест беларускіх дзеясловаў "адыходзім", "пакідаем" або "зьнікаем".

Вольнае-ж, ніякай цэнзурай неабмежаванае, разьвіцьцё беларускай паэзіі ў вольным сьвеце будзе служыць канечнай мэце вызваленьня нашае літаратуры з тых путаў, у якіх яе трымаюць сяньняшнія панявольнікі нашае бацькаўшчыны.



## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЭРБЕ І СЬЦЯГУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

(Даведка)

У справе беларускага нацыянальнага сьцягу і гэрбу падаю тое, што мне ведама ў гэтай справе.

На паседжаньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту, якое адбывалася ў Менску ў сакавіку 1917 г. (дакладнай даты ня помню) пад старшынствам Язэпа Лёсіка, абмяркоўвалася пытаньне беларускай дзяржаўнай эмблемы і беларускага нацыянальнага сьцягу. Прымаючы пад увагу, што большасьць так званых гарадзкіх думаў Менскай губэрні на сваіх старых пячатках мелі Пагоню (яшчэ пры мне ў 1917 г. Слуцкая гарадзкая дума ўжывала такую пячаць), пастаноўлена — прыняць, як спадчыну па Вялікім Княстве Літоўскім, за дзяржаўную эмблему старадаўнюю Пагоню.

У справе колераў для беларускага нацыянальнага сьцягу Камітэт кіраваўся тым меркаваньнем, што на ўсіх мастацкіх вышыўках, як жаночае, так і мужчынскае вопраткі (пе-

раважна кашулі), а таксама на розных іншых мастацкіх вышыўках — на настольніках, ручніках і таму падобных, — ужываліся пераважна, калі нават ня выключна, колеры чырвоны і белы, таму пастаноўлена было ўстанавіць гэты сьцяг з трох, аднолькавай шырыні палотнішчаў: белага, чырвонага і белага. Даўжыня гэтага сьцягу павінна была быць удвая большая, чымся шырыня ўсіх трох палотнішчаў. Адначасна Камітэт даручыў сяброўцы Камітэту, дачцы беларускага пісьменьніка Ядвігіна Ш. (Лявіцкага), а пазьней жонцы Язэпа Лёсіка, пашыць такія сьцягі і разаслаць іх ува ўсе паветы Меншчыны ды ўсе беларускія арганізацыі. Такі сьцяг з залатым напісам "Няхай жыве вольная Беларусь", я атрымаў у Слуцку ў травені 1917 г. і ён быў вывешаны ў будынку Слуцкага Павятовага Камісарыяту.

25 сакавіка 1917 году ў памешканьні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску пад № 25 па Захар'еўскай вуліцы адбываўся агульны Беларускі Зьезд, які апрабаваў прынятую пастанову Беларускага Нацыянальнага Камітэту аб сьцягу і ў гэты дзень будынак, у якім адбываўся зьезд, быў упрыгожаны такімі сьцягамі, і такія-ж сьцягі ў паваліччаным фармаце павявалі на вуліцы пры гэтым будынку.

Падчас Першага Ўсебеларускага Зьезду, які мы цяпр называем Кангрэсам, на будынку Менскага гарадзкога тэатру і ўнутры (дзе адбываўся зьезд) павявалі бел-чырвона-белыя сьцягі, якія вельмі не падабаліся бальшавіком. Адзін з іх (бальшавікоў), падчас прамовы, адважыўся сказаць: "Выбросьте эту тряпку!" Гэта так абурыла прысутных дэлегатаў, што яму ня далі дакончыць ягонае прамовы. Ад таго часу ніхто ніколі, на колькі я памятаю, не рабіў ніякай засьцярогі адносна ўстаноўленых дзяржаўнае эмблемы і нацыянальнага беларускага сьцягу.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі таксама прыняла іх бяз усякае засьцярогі.

*Р. Астроўскі*

АЛЕСЬ ЗМАГАР

### ДЗЕ ТЫ

Засінела поле васількамі,
Каля рэчкі зелень муравы.
Дзе ты? Дзе? З палыннымі рукамі?
З позіркам асеньня-агнявым?

Дзе ты? Дзе? Пралесачка лясная!
Радасны прамень мае вясны!
Дзе ты? Дзе? Галубка дарагая!
Папараць вясёлкавага сну!

Ты чаму з усьмешкаю на твары
Ня выходзіш сустракаць мяне?
Чырванелі шчочкі праз загару,
Позірк воч іскрыўся і цямнеў.

Над ракою сьцелюцца туманы,
Ахінаюць белай тканінай.
Дзе ты? Дзе? З гарачым гнуткім станам?
Ты чаму сягоньня не са мной?

***

### ЖАР У ГРУДЗЁХ НЕ ЗГАСІЦЬ

Хмары чорныя коцяцца срога,
Затрашчаў сіні бор барацьбой;
Разыйшліся у далеч дарогі,
І ніяк ня сустрэцца з табой.

І ніяк не заглянем мы ў грудзі,
Ў глыб бяздонных, нягаснучых мук,
І ніяк не працягнем пры людзях
Ад растаньня зьняможаных рук.

І хоць часта мне сьніцца, што ўлетку
Зноў здалёк мне махаеш рукой,
І хоць часта я сьню, што ў палетку
Зноў сышліся шляхі за ракой,

Заліваецца песьня над кручай,
То зьвініць, то замрэ, як калісь,
Дні растаньня цяжарам балючым
Чорнай хмарай на сэрцы ляглі.

Згасла радасьць мінулага раньня,
Зьніклі хвалі рачулкі ў трысьці.
Адзьвінела ў растаньні каханьне,
Але жар у грудзёх не згасіць.



### ПРАДБАЧАНЬНЕ І ПРАРОЦТВА

Міністар абароны ЗША МэкНэмэра зрабіў камісіі Палаты Прадстаўнікоў па справах збройных сілаў даклад, у якім паміж іншага, прадбачыць магчымасьць ядзернай атакі на тэрыторыю ЗША ў 1970 г. з боку дзяржаваў, якія пасядаюць ядзерную зброю.

— У таталітарнай вайне Злучаныя Штаты вытрымаюць атаку. Тады адказным ударам мы зможам зьнішчыць сто мільёнаў жыхароў варожай краіны і 80% яе прамысловасьці.

— Але ніякая праграма абароны, колькі-б грошай яна ні каштавала, ня зможа абараніць ЗША ад раптоўнай атамнай атакі, ад якое загіне 150 мільёнаў чалавек у нашай краіне.

Гэтулькі МэкНэмэра.

А вось што прарочыў 400 гадоў назад прыдворны (пры двары Марыі Мэдзічы) доктар і філёзаф Настрадамус:

"Агнявы Бог з дымам і грукатам зьмяце з твару зямлі гарады, і жоўты Усход зальле Захад. Агні прыляцяць з паўночных ускраін Азіі. Гэтыя нябесныя агні будуць над зямлёй, як у час Садома і Гаморы, але ўсё-ж будуць і ўратаваныя".

Гэта мае стацца ў 1970-80 гады гэтага стагодзьдзя.

Самыя трагічныя гады маюць быць 1996-2006: "Пачнецца ўсюды голад і чума. Далёкая плянэта пачне набліжацца да зямлі, выклікаючы няспынныя дажджы і часамі засыпаючы зямлю іскрамі агню. Із-за ўтраты раўнавагі зямное восі акіяны зальлюць мацярыкі, і чалавецтва загіне, таму што яно адыйшло ад веры ў Бога".

"Аднэй мэханікай нельга ўратаваць" — піcaў ён.

Настрадамус прадказваў за дзесяць гадоў наперад, як і калі памруць францускія каралі Францыск II і Гэнрык II, Людовік 14, Людовік 15, францускую рэвалюцыю. Ён дакладна прадказваў войны 1914-18 і 1939-45 гадоў.

Няўжо-ж і апошнія прароцтвы збудуцца?

*Я. Л.*

## ХРОНІКА

### 47-я УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

З нагоды 47-х Угодкаў Дня Незалежнасьці Беларусі Беларускі Кангрэсовы Камітэт Амэрыкі (БККА) і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗ-а) ладзілі ў нядзелю, 21 сакавіка 1965 г., у гатэлі "Астор" у Нью Ёрку, урачыстую Акадэмію.

Прынагодныя зьмястоўныя даклады прачыталі маладыя інжынэры Канстантын Вайт (Вайцахоўскі) і Юры Станкевіч. Інжынэр К. Вайт чытаў па-ангельску, а інжынэр Ю. Станкевіч — па-беларускі.

На Акадэміі прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі міжнацыянальных і нацыянальных арганізацыяў. Шмат хто зь іх выступаў з прывітальным словам.

Першым прамаўляў кангрэсман ад дыстрыкту Нью Ёрк Містар С. Галперн. Яго прамова вызначалася глыбінёй думак, веданьнем гісторыі і праблемы Беларусі ды аптымізмам што да разьвязаньня гэтае праблемы. За ім прамаўлялі: прадстаўнік ад павятовае управы Мідлысэкс, штату Нью-Джэрзэй, мр. Джон Б. Бырн, прадстаўнікі Албаніі, Арменіі, Баўгарыіі, Вугоршчыны, Грузіі, Індыі, Ідэл-Уралу, Казакіі, Кубы, Польшчы, Славакіі, Украіны, Харватыі ды два прадстаўнікі ад Лігі Паняволеных Народаў.

На мастацкую частку скляліся выступы двух хораў з Саўт Рывэру: жаночага хору "Каліна", пад кіраўніцтвам кампазытара К. Барысаўца і мужчынскага хору вэтэранаў пад кіраўніцтвам кампазытара Ю. Рымко.

Цырымоніямайстрам Акадэміі быў інжынэр Міхась Бахар.

***

Гонарам найбольшага беларускага асяродку ў З.Ш.А. — ў Саўт Рывэры — зьяўляюцца беларускія хоры. На сяньня існуюць тут тры хоры: мяшаны, пад кіраўніцтвам кампазытара Д. Верасава, Жаночы — "Каліна", пад кіраўніцтвам кампазытара К. Барысаўца, і нядаўна арганізаваны мужчынскі хор вэтэранаў, пад кіраўніцтвам былога лейтэнанта Б. К. А. Ю. Рымко. Гэтыя хоры годна рэпрэзэнтуюць беларускае сьпеўнае багацьце, безінтэрасоўна выступаючы на беларускіх нацыянальных сьвяткаваньнях і на другіх імпрэзах.

У мінулым годзе беларускі мяшаны хор і жаночы хор "Каліна" сумесна з беларускімі танцавальнымі групамі з Нью Ёрку і Кліўленда з вялікім посьпехам выступалі падчас "Беларускага Дня" на канцэрце на Сусьветнай Выстаўцы ў Нью Ёрку.

Хор "Каліна" пасьпяхова рэпрэзэнтаваў беларускае мастацтва ў Нью Брунсвіку ў Рат-

гэрскім унівэрсытэце падчас сьвяткаваньня 300-годзьдзя штату Нью Джэрсі.

**

Адміністрацыя Сусьветнай Выстаўкі ў Нью Ёрку запрасіла беларускія арганізацыі зладзіць і ў гэтым годзе "Беларускі Дзень" на Сусьветнай Выстаўцы. Дзеля падрыхтоўкі арганізованы адумысны камітэт з сяброў Беларускага Кангрэсавага Камітэту і БАЗА. "Беларускі Дзень" адбудзецца ў нядзелю 30-га траўня. У канцэрце прымуць удзел тры беларускія хоры і танцавальныя групы з Нью Ёрку і Кліўленду.

**

Беларускае Выдавецкае Таварыства выпусьціць доўгаграючую кружэлку, насьпяваную беларускім жаночым хорам "Каліна", пад кір. камп. К. Барысаўца. Кружэлку можна выпісваць праз "Беларускую Думку".

**

У мінулым годзе ў Саўт Рывэры арганізаваўся Беларуска-Амэрыканскі Дэмакратычны Клюб, які прымае актыўны ўдзел у грамадзкім і палітычным жыцьці гораду. Старшынёю Клюбу зьяўляецца сп. Я. Цупрык, сакратаром — сп-я Брылеўская, скарбнікам — сп. В. Мяжэвіч.

**

31-га студзеня адбыўся Агульны Гадавы Сход парахвіян Беларускае Праваслаўнае Царквы імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Царкоўнае жыцьцё тут устабілізавалася. Пры царкве існуе прыгожы хор пад кір. камп. Д. Верасава, працуе суботняя школа. Пастаноўлена яшчэ ў гэтым годзе набыць, або збудаваць царкоўны дом дзеля патрэб парахвіі і школы. У новы Парахвіяльны Камітэт былі выбраны: Ф. Высоцкі — старшыня, І. Наумчык — заступнік старшыні, Ю. Мяжэвіч — скарбнік, М. Сенько — сакратар, М. Сіцько, Ц. Варанцоў і М. Мацывода — сябры.

## ВАЖНЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ НА РЭЗОРЦЕ "БЭЛЕР-МЕНСК" У СЭЗОНЕ 1964 ГОДУ

= У канцатыдні 4-га ліпеня беларускія вэтэраны ЗША адзначылі 20-тыя ўгодкі мабілізацыі Беларускае Краёвае Абароны. Акадэмія, банкет і парад беларускіх вэтэранаў — гэта былі найвыдатнейшыя мамэнты 2-хдзённага сьвяткаваньня.

= 11-га ліпеня адбыліся валейбольныя змаганьні, у якіх беларуская каманда "Нёман" (з Саўт Рывэру) ізноў годна рэпрэзэнтавала беларускі спорт.

= Ад 11-га ліпеня да 1-га жнівеня пры селішчы працаваў дзіцячы лягер. Сёлета — у другім сэзоне — праз лягер прайшло больш 30 дзяцей векам ад 6 да 14 год. У лягерную праграму ўваходзілі рэгулярныя заняткі зь беларусаведы, ручныя працы, спорт, гульні, скаўцкія навучаньні і краязнаўчыя паходы. Адбыліся тры вогнішчы, некалькі спартовых змаганьняў і два таварыскія футбольныя спатканьні з суседняй "Верхавінай". На заканчэньне дзецям былі раздадзеныя ўзнагародныя кубкі за розныя спраўнасьці і посьпехі.

= На рэзорце адбываліся рэгулярна паказы навейшых амэрыканскіх фільмаў і арганізаваныя слуханьні беларускіх кружэлак. Апрача таго, спадарства Гэльвігі наладзілі для дзяцей і шырэйшага грамадзтва паказы навучальна-гэаграфічных фільмаў зь іхных падарожжаў.

= Ад 15 жнівеня да 10 верасьня адбывалася выстава беларускіх картаў: гэаграфічных, этнаграфічных, лінгвістычных, гістарычных.

= Канцатыдзень Сьвята Працы быў вельмі ўдалы і надзвычайна ажыўлены. Беларускі Кангрэсавы Камітэт арганізаваў адзначаньне 20-тых угодкаў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, а таксама дыскусію "Праблемы Беларускае Эміграцыі". У дыскусіі бралі ўдзел прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў і угрупаваньняў у ЗША. Падчас Сьвята Працы адбыліся таксама на рэзорце два канцэрты: беларускае тэатральнае трупы з Саўт Рывэру і жаночага хору "Каліна" з Саўт Рывэру.

= У першую нядзелю верасьня на рэзорце адбыліся нарады беларускае сэкцыі рэспубліканскае партыі з удзелам прадстаўнікоў ад усіх большых беларускіх асяродкаў ЗША. У гэтую нядзелю таксама адбыліся нарады кіраўнікоў Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

= Летні сэзон закончыўся мастацка-танцавальным вечарам, наладжаным 18 верасьня Саюзам Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

= Ад кастрычніка 1964 г. на рэзорце пачалося будаўніцтва новае вялікае залі і бару. Заля будуецца на месцы, дзе была папярэдняя заля, а бар фасадам выходзіць на галоўную дарогу. У залі прадугледжана вялікая сцэна і месца для фільмовага апарату.

= Гэта быў кароткі агляд арганізаванае дзейнасьці на рэзорце. Аднак агляд і статыстыка не адлюстроваюць усяго. Галоўнае тое, што пачын супольнае беларускае дзейнасьці дае плён. Паступова але пэўна Бэлер-Менск у летніх месяцах становіцца цэнтрам беларускага грамадзкага жыцьця. Тут адбываюцца спатканьні, канцэрты, зьезды. Моладзь знаё міцца міжсобку і з старшым грамадзтвам, усьведамляецца, адпачывае. Беларускія духаўнікі ўсіх юрысдыкцыяў і веравызнаньняў даюць жыхаром Менску беларускай малітвай духовы адпачынак і ўздым. "Менская" атмасфэра падае надзею, што супрацоўніцтва і згода запануюць у ўсім беларускім жыцьці ў ЗША.

= 21-га лютага г.г. ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне адбыўся Агульны Гадавы Сход карпарацыі "Бэлер-Менск". Была выбрана новая ўправа карпарацыі, у склад якое ўвайшлі: В. Юрцэвіч — старшыня, В. Кіпель — заст. старшыні, М. Сенька — сакратар, Ул. Пелеса — скарбнік, Ю. Станкевіч — праграмны дырэктар; у Раду Дырэктароў увайшлі: К. Мерляк, М. Касьцюк, А. Гурын, В. Мяжэвіч, А. Несьцяровіч, др. В. Васілеўскі, Д. Кліцэвіч.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

К. Юхневічу, Нью Ёрк, ЗША.

Апавяданьне "Знаёмыя ўрадоўца Лядзеўскага" надрукуем у № 8.

## З ВЫДАВЕЦКАЕ НІВЫ

☐ Ул. Глыбінны. "На берагох пад сонцам". Апавяданьні і аповесьці, 1964 г. Выдана Беларуска-Амэрыканскім Літаратурна-Навуковым Цэнтрам.

☐ Канстантын Акула. "Гараватка", раман. Кніга I: *Дзярлівая птушка*. Выдавецтва "Пагоня". Таронта, 1965 г.

☐ "Царкоўны Сьветач", царкоўна-грамадзкі часапіс. Рэдагуе Рэдакцыйная калегія, выдае Царкоўная Рада Беларускае Праваслаўнае Царквы. № 4-5(14-15) за 1964 г.

☐ Квартальны часапіс "Беларуская моладзь" за 1964 г., №№ 20, 21. Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы і Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

☐ Двумесячны часапіс беларускае рэлігійнае думкі "Божым Шляхам", №№ 84, 85, 86 і 87 за 1964 г., і № 1(13) за 1965 г.

☐ Першы беларуска-эвангельскі часапіс "Сьветач Хрыстовае Навукі", №№ 1-3, 4-5 за 1964 г. Выдавец і рэдактар пастар Ян Пятроўскі. Выдаецца ў ЗША.

☐ Беларускі рэлігійны адраджэнскі часапіс "Зьніч", №№ 78-79 і 80 за 1964 г. Выдаецца ў Італіі пад рэдакцыяй а. Р. Татарыновіча.

☐ "Беларускі Сьвет", № 3 за 1964 г. Выдаецца ў ЗША. Рэдактар і выдавец — Н. Прускі.

☐ "Уздым", ворган беларускага актыву на выгнаньні, №№ 5 і 6 за 1964 г. Ратататарнае выданьне. Выдаецца ў Кліўлендзе, ЗША, пад рэдакцыяй М. Кабякі.

☐ "Барацьба", цэнтральны ворган беларускага вызвольнага фронту, № 4(55) за 1964 г. Ратататарнае выданьне. Выдае: Палітычна-прапагандовы Аддзел Галоўнага Штабу БВФ.

☐ "Вехі", ворган Беларускае паступовае думкі, № 11 за 1965 г. Ратататарнае выданьне. Выдаецца ў Нямеччыне.

☐ "Радаслаў Астроўскі, Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады, ягонае жыцьцё, праца і змаганьне". Апрацаваў Ю. Жывіца. Ратататарнае выданьне. Выдавецтва "Вехі" — 1964 г.

☐ Пэрыядычны часапіс "Беларуская царква", № 26 за 1964 г. Выдае "Беларуская выдавецкая сябрына". Ратататарнае выданьне.

☐ "Аб'еднаньне", № 2/104 за сакавік 1965 г. Выдае Аб'еднаньне Хрысьціянскіх Беларускіх Работнікаў у Ангельшчыне. Ратататарнае выданьне.

Рэдакцыйная Калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч, М. Кавыль (галоўны рэдактар), І. Касяк, пратапр. а. М. Лапіцкі, Д-р М. Шчорс.

Адрас Рэдакцыі: M. Kavyl, 10 Armstrong Ave., South River, N. J.,

Выдае: Беларускае Выдавецкае Таварыства ў ЗША.

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204